


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

27 снежня 2002 года

№ 52 (401)
Выходзіць па пятніцах

плюс Тэлетыдзень

**Дарагія чытачы!**

*Віншуем вас з надыходзячым Новым годам! Жадаем здзяйснення ўсіх вашых мараў, заўсёднага аптымізму, цеплыні і шчасця ў вашых сем'ях, здароўя, поспехаў у прафесійнай дзейнасці, дасягнення высакародных мэтаў, якія вы заўжды ставіце перад сабой.*

Ваша «Рэгіянальная газета».

# Паход пад Новы год



22 снежня, бярозавы гай пад Маладзечнам. Дзед Мароз уручае навагодні падарунак Кацярыне Абдул-Патахавай. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**МАЛАДЗЕЧНА. Перад Новым годам вучні 6 "В" класа беларускай гімназіі разам з бацькамі традыцыйна ідуць у паход.**

Сёлета пайшлі ў бярозавы гай, які месціцца ў чатырох кіламетрах ад горада. Вучняў падзялілі на дзве каманды – "Сняжок" і "Чабурашка". Школьнікі выйшлі раніцай у нядзелю з інтэрвалам у 10 хвілін. Кожная каманда ішла па сваім маршруце. Самаму малодшаму удзельніку паходу Арсенію Вераб'ю – 4 гады, самаму старэйшаму – пад 50.

Бацькі, сярод якіх былі школьныя настаўнікі і члены турыстычнага клуба "Пілігрым", падрыхтавалі камандам 7 выпрабаванняў. Галоўнае было – не хутчэй іх выканаць, а пераадолець разам, камандай. У адным жа класе вучацца.

Падлеткі справіліся. Кастры развялі без праблем. А як жа інакш? Усе ўдзельнікі – дасведчаныя турысты, ў кожнага не адзін паход за плячыма. На "выдатна" справіліся з прыгатаваннем абеду. Варылі суп і гарбату шасцікласнікі самі. Мамам дапамагаць забаранялася па ўмовах конкурсу, хаця дарослым і карцела даць параду.

Абедзве каманды ішлі побач. Усё вырашыў апошні конкурс – калядная песні. Лепш падрыхтаваліся і атрымалі агульную перамогу турысты са "Сняжка". Каманды атрымалі дыпломы ад турыстычнага клуба "Пілігрым", а кожны ўдзельнік – навагоднія падарункі ад Дзеда Мароза.

Хаця правільней будзе сказаць, што перамагла дружба. Гэта пацвердзілі футбольныя матчы. Першы конкурсны – каманды, якія ўзмацнілі па некалькі дарослых, разышліся мірам 3:3. Так і пазаконкурсны, калі ўдзельнікі сабраліся на паляне перад адыходам дадому. Таксама нічыя – 4:4.

Камандам уручылі торт, і спаборніцтвы на гэтым завяршыліся. "Сняжок" і "Чабурашка" зноў сталі адным класам. Па дарозе дадому ўспаміналі падзеі гэтага насычанага дня. Хоць ён сёлета быў самым кароткім. А мацнейшых дамовіліся выявіць у наступным паходзе. Ужо ў 2003 годзе.

Юрый КАРПІЦКІ.



Капітан каманды "Чабурашка" Хрысціна Баханко. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Навіны рэгіёна

### Перамагла «Амазонка»

**ВІЛЕЙКА.** 19 снежня прайшла гульня КВЗ паміж чатырма камандамі ССНУ раёна. Перамагла каманда "Амазонкі" ПТВ-200. За гэта яна атрымала ў падарунак магнітафон. Далей размясціліся "Пераходны ўзрост" ПТВ-48, "Дзеці падзямелля" тэхнічнага ліцэя № 1, "Айбаліт" Ільянскага саўгаса-тэхнікума.

Віталь ПАЎЛОЎСКІ.

### Светлы падарунак

**АШМЯНЫ.** З аўторка святло на вуліцах райцэнтра гарыць усю ноч.

Такі калядны падарунак зрабілі мясцовыя ўлады. Раней вулічнае святло адключалі з 22 да 6 гадзін. Пасля навагодніх святаў на ашмянскіх вуліцах зноў пацямнее.

Ірына РАБУШКА.

### Калядны пажар

**МАЛАДЗЕЧНА.** На Каляды зламыснікі падпалілі кабінет дырэктара Красненскай школы.

Згарэлі тэлевізар, ксеракс, шафа, пісьмовы стол, відэамагнітафон. Злачынцы ўскрылі некалькі кабінетаў і школьны музей і ўкралі навагоднія падарункі.

Ірына РАБУШКА.

### Перанос выхадных

Згодна з пастановай Савета Міністраў рабочы дзень з панядзелка, 6 студзеня, пераносіцца на суботу, 4 студзеня. Арганізацыі з улікам спецыфікі дзейнасці маюць права пераносіць выхадны ў іншым парадку ў адпаведнасці з заканадаўствам.

Аддзел інфармацыі "РГ".

### Як весела сустрэць Новы год

Прапануем гульні і забавы, якія дапамогуць зрабіць навагоднюю ноч запамінальнай: "Навагодняя ёлка", "Не пралі", "Вяровачка", "Падарунак для самага смелага", "Спіртометр" і іншыя.

4-я старонка

### Чым год запомніўся?

На Мядзельшчыне больш за іншых надаіў малака 22-гадовы Яўген Русак. У Маладзечне сёлета адкрыўся Палац культуры. Успомнім, пра што сёлета пісала "Рэгіянальная газета".

6-7-я старонкі

### Астралагічны прагноз на 2003 год

Авенам наступны год прынясе ўдачу. Блізнятаў чакаюць перамены і на рабоце, і дома. Для Скарпіёнаў гэты год будзе важным, а для Казярогаў – цяжкім.

8-я старонка

■ АКЦЫІ

# Размаўляйце па-беларуску

**МАЛАДЗЕЧНА. 24 снежня да вучняў 7 "Б" класа Алёхнавіцкай сярэдняй школы з падарункамі прыехалі госці з Мінска.**

Штогод беларусы Зора і Вітаўт Кіпелі, якія жывуць у Нью-Ёрку, перадаюць калядныя падарункі для беларускіх дзяцей. Партнёрам амерыканцаў у акцыі з'яўляецца Таварыства беларускай мовы. Яно вызначае клас, які атрымае падарункі ад амерыканцаў. Сёлета першы раз лаўрэатамі сталі вучні не сталічнай школы.

Мовазнаўца Зміцер Саўка перад самай прыемнай для дзяцей часткай мерапрыемства расказаў пра мужа і жонку Кіпеляў, якія пакінулі Беларусь у 1944 годзе і тым самым выратаваліся ад рэпрэсій. У Амерыцы яны выдалі кнігі аб беларусах і Беларусі, займаюцца дабрачыннасцю. Дзеці Кіпеляў свабодна валодаюць беларускай мовай. Штогод Зора і Вітаўт выдзяляюць грошы на падарункі тым дзецям, якія навучаюцца па-беларуску з пажаданнем захаваць родную мову.

Кожны вучань 7 "Б" класа атрымаў цукеркі, кнігі, касеты з запісамі беларускай музыкі і паштоўкі. Акрамя таго мінчане падарылі школе 15 відэакасет з дыснееўскімі фільмамі, якія агучаны па-беларуску, і кнігу "Беларускія слоўнікі і энцыклапедыі".



Вучні 7 "Б" класа Алёхнавіцкай сярэдняй школы Даша Кавалевіч, Оля Смірнова і Паша Коўшык толькі што атрымалі калядныя падарункі ад Зоры і Вітаўта Кіпеляў з Амерыкі. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Школьнікі ў адказ наладзілі канцэрт з песнямі і вершамі на беларускай мове.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ПРЭЗЕНТАЦЫІ

## Знаёмства з мастацтвам

**ВІЛЕЙКА. Ці ўсіх сваіх землякоў мы ведаем? Ці заўсёды ўважлівыя да творчасці ураджэнцаў сваёй старонкі?..**

Відавочна, гэтыя і іншыя пытанні трывожаць і хвалююць бібліятэкараў, бібліёграфаў Вілейкі, Вілейскага раёна. Інакш бы не ўвайшоў у культурна-асветніцкае жыццё раёна і горада такі вопыт, як выданне невялікіх буклетаў-раскладак, якія былі б прысвечаныя творцам – паэтам, кампазітарам, мастакам.

З выданняў падобнага кшталту – і "Гармонія – гэта раўнавага" (героем буклета яго укладальнік, аўтар тэксту **Ала Юркевіч** абрала вядомага беларускага скульптара **Уладзіміра Слабодчыкава**). Нарадзіўся знакаміты зямляк у вёсцы Даўгінава Вілейскага раёна. Сёлета Уладзіміру Слабодчыкаву споўнілася 50 гадоў. Вельмі важна, што не забытыя яго радаводныя карані, што і ў тэксце ёсць згадка пра тое, з чаго пачынаўся шлях у вялікае мастацтва. "Бацька Іван Дзям'янавіч, — чытаем у буклеце, — працаваў выкладчыкам выяўленчага мастацтва. Таксама на выбар прафесіі аказалі ўплыў старэйшыя сябры скульптара – **Мікалай Кавалёў** і **Вячаслаў Сакалоў**.

Падаздены ў буклеце і фотаздымкі работ Уладзіміра Слабодчыкава. Варта нагадаць, што яшчэ ў пару студэнцтва работу Уладзіміра Слабодчыкава набыла Траццякоўская галерэя.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

■ МІНУЛАЕ

## Амаль невядомае імя

**Імя Фердынанда Францавіча Арля-Ашмянца амаль невядомае ў Маладзечне. А шкада, бо ён працаваў выкладчыкам гісторыі права і лацінскай мовы ў Маладзечанскім вучылішчы аж у 1818 годзе.**

Вядомы быў чалавек. Месцам нараджэння называў Беларусь, дзе з'явіўся на свет у 1775 годзе. Закончыў Галоўную Полацкую школу. Пасля – праца настаўніка. Дынабург, Віцебск, Ворша ведалі яго асабіста. З 1800 года працаваў у Полацку, Рагачове, Камянцы. У 1808 годзе – выкладчык Курскай гімназіі. У 1813 годзе сярод прадметаў, якімі дасканала валодаў настаўнік, былі статыстыка, гісторыя, геаграфія, старажытнасці, літалогія і лацінская мова.

У Арле пачаў выдаваць два перыядычныя выданні: з 1816 года – "Друг россиян и их единомышленников...", у 1817-1818 гг. "Отечественный памятник, посвященный дружелюбному соединению российских и польских народов", якія друкаваў у Маскве.

З Арла пераехаў у Магілёў, дзе таксама выкладаў у гімназіі.

Здаецца, просты настаўнік. Але я б хацеў, каб калі-небудзь простыя настаўнікі з Беларусі ездзілі ў Маскву выдаваць часопісы асветніцкага характару. Хай нават з такімі назвамі. Няхай хоць цераз аднаго. Вось тады і атрымаецца саюз розуму і сэрцаў. Праз асвету да дабрачыннасці.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

■ МЕДЫЦЫНА

## Японскія эндакрынолагі ў Чысці

**МАЛАДЗЕЧНА. 20 снежня 8 урачоў з японскага дабрачыннага фонду «Рух дапамогі Чарнобылю» прыехалі ў Чысцінскую ўчастковую бальніцу.**

Хірург-эндакрынолаг Хідэа Ямада правёў кансультацыйнае абследаванне 30 дзяцей і дарослых з паталогіяй шчытападобнай залозы. Эндакрынолаг Набуа Такеічы, ганаровы прафесар Кеніра Ёкора і прафесар-дазіметрык Масахару Хошы далі парады пацыентам і зрабілі для іх і урачоў бальніцы здымкі шчытападобнай залозы.

Расказвае Хідэа Ямара:

– Мы ужо не першы раз прыязджаем у Чысць. Былі ў жніўні гэтага года, каб пазнаёміцца з персаналам бальніцы і дыягнастычным абсталяваннем. Наш фонд пачаў працаваць пасля здарэння ў Хірасіме. Дапамагалі хворым у Японіі, Расіі, Украіне. Пасля даследаванняў, праведзеных у Беларусі, бачым з 1991 года змяненні у лепшы бок сярод захворванняў шчытападобнай залозы, але аб поўнай папраўцы насельніцтва гаварыць рана.

Прысутнічаў падчас кансультацыі японскіх урачоў і галоўны ўрач Маладзечанскага раённага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання **Іван Лужынскі**. Ён расказаў, што сёння у Чысці жыве 150 дзяцей з паталогіямі шчытападобнай залозы. Усяго у Маладзечанскім раёне налічваецца 1837 чалавек, пацярпеўшых пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

– Калі ў раён прыязджаюць прадстаўнікі дабрачынных фондаў, мы стараемся звярнуць больш увагі праграмам медыцынскага накірунку і турботам дыягнастычнага абсталявання. Вось сёння у бальніцы працуюць 3 апараты, якія засталіся ад фондаў Чырвонага Крыжа з Германіі і Аўстрыі, – зазначыў І. Лужынскі.



Абследаванне пацыентаў у Чысцінскай бальніцы праводзіць японскі хірург-эндакрынолаг Хідэа Ямара. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Асістэнт эндакрыналагічнай кафедры Беларускай медыцынскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі Аляксей Раманоўскі, які прыехаў разам з японцамі, сказаў, што праз месяц Маладзечанская раённая бальніца атрымае ад японскага дабрачыннага фонду эндаскапічны апарат «Фуджы», які каштуе каля 15 тысяч долараў. Абсталяванне прывезлі ў Беларусь. Цяпер на яго афармляюць тамажныя дакументы.

Візіт японцаў у Чысць наладзіў Беларускі Чырвоны Крыж.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Укралі ў свайго

**МЯДЗЕЛ. Трое супрацоўнікаў мясцовага аддзялення "Ахова" арыштаваныя па падазрэнні ў крадзяжы аўтамабіляў у горадзе.**

Злавілі іх пасля таго, як угналі з гаража "Audi" ва ўчастковага інспектара. Мяркуецца, што і дагэтуль гора-ахоўнікі здзяйснялі крадзяжы. Затрымалі іх свае ж мядзельскія міліцыянеры.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ МАЛЫ БІЗНЕС

## За два месяцы – дзве кавярні

**ВІЛЕЙКА. 7 снежня адчыніла дзверы новая кавярня "Ш і К".**

Яна размясцілася ў зенітаўскім мікрараёне. Разлічана яна на 36 чалавек, а з улікам месцаў на тэрасах – да 80. З часу адкрыцця апошняй кавярні "Цяністыя алеі" не мінула і двух месяцаў. Ужо з'явіліся пастаянныя кліенты. Курыць унутры памяшкання нельга.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ ПРЭЗЕНТАЦЫІ

## «Мовай сэрца»

**ВАЛОЖЫН. Своеасаблівы вынік творчай дзейнасці падвяла мясцовая паэтка, член беларускага Саюза пісьменнікаў Валянціна Гіруць-Русакевіч.**

Напярэдадні года яна здала ў мінскае выдавецтва "Мастацкая літаратура" свой новы зборнік "Мовай сэрца". Гэты зборнік ужо трэці па ліку.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ ЗАХАПЛЕННІ

# Па дзедавых слядах

**МАЛАДЗЕЧНА. У рабочым кабінеце намесніка галоўнага інжынера Маладзечанскіх электрасетак Аляксандра Бобрыка будуць расці апельсіны.**

Калісьці яму падарылі дрэва дзікага лімона. Яно разраслося, але пладоў не было. І з месяц таму Аляксандр Бобрык прышчапіў 4 галінкі з апельсінавага дрэва. Адна прыжылася. Першыя плады чакаюць летам.

Яшчэ Аляксандр Бобрык вядомы на рабоце тым, што даглядае пчол. Калегі і сябры з задавальненнем купляюць мёд. Смачны, і ад надыходзячага грыпу прафілактыка добрая.

... Пчолы Аляксандру дасталіся ў спадчыну ад дзеда, які жыў на Маладзечаншчыне, у Готкавічах. Вуллі трымаюць здаўна. Аб пчолах клапаціліся тут і ў вайну. Дзед дажыў да 95 гадоў, а пчалярствам займаўся да 90-гадовага ўзросту. Бацька Аляксандра гэтай справай не надта цікавіўся, і справу падхапіў унук. У той час (15 гадоў таму) вельмі дапамог парадамі дасведчаны пчаляр **Вячаслаў Шэмет** з Хажова.

Досвед зрабіў сваю справу. Замест шасці вулляў, якія перадаў дзед, цяпер у Готкавічах на дачы Бобрыкаў каля 30 пчаліных домікаў. Аляксандр прывык да пчолаў, маску не надзявае. І яны ўжо не кусаюцца.

– Пчол не трэба баяцца – гаворыць Аляксандр. – Яны джаляць, калі адчуваюць няўпэўненага ці нервовага чалавека. Яны таксама рэагуюць на рэзкія пахі. Не куру, цыбулю летам стараюся не есці, таму няма чаго баяцца. Цікава назіраць за пчоламі. Іх свет ідэальны ў параўнанні з чалавечым. Асабліва дасканалая ў іх арганізацыя справы. Кожны ў іх займаецца сваёй справай. Першыя дні жыцця пчала займаецца работай у вуллі – будуе соты, убірае смецце. Заўважце, у пчаліных вуллях заўсёды чыста. Пасля вылятаюць за межы – носяць ваду, якая патрэбна для падтрымання вільгаці ў вуллі і для вырабу мёду, робяць першы аблёт і пачынаюць збіраць мёд. Усё па ступенях і кожны пры справе. Нават трутні, якія ёсць ў кожным вуллі. Іх роля – апладняць пчол. Мёд яны не могуць збіраць фізічна. А на зіму трутняў з вулляў выкідваюць. 2-3 пчалы адцясняюць трутня ад мёду. Праз пару дзён трунець аслабее ад голаду, тады пчолы лапамі адрываюць яго ад сотаў і выкідваюць на вуліцу. У прыродзе ўсё дасканала.



Аляксандр Бобрык у рабочым кабінеце ля прышчэпленага ім дрэва лімона, на якім неўзабаве вырастуць апельсіны. Аляксандр Бобрык нарадзіўся 17 мая 1964 года ў Вілейцы. З малых гадоў жыве ў Маладзечне. У 1981 годзе закончыў Маладзечанскую СШ №9, у 1986-м – Беларускі політэхнічны інстытут. На Маладзечанскіх электрасетках працуе з 1987 года. Пачынаў з інжынера ў службе рэлейнай аховы і аўтаматызацыі. З 2 студзеня 1997 года – намеснік галоўнага інжынера.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Пчолы не могуць карыстацца мёдам, які атрымліваецца з сабранага імі нектара, бо летам сярэдняя працягласць жыцця пчалы – каля 35 дзён, і пчолы паміраюць да таго, як завяжацца мёд новага ўраджаю. Яго спажывае наступнае пакаленне. Але пчолы ўсё роўна працуюць на іншых, у адрозненне ад чалавечай натуры, якая імкнецца ў першую чаргу сябе задаволіць.

Пчалярствам у Готкавічах больш ніхто не займаецца. Былі вуллі яшчэ ў адной сям'і, але памёр дзед-пчаляр і пчолы зляцелі. Справу Аляксандра Бобрыка ёсць каму прадоўжыць. Некалькі гадоў дапамагае бацьку сын Сяргей. Не толькі практычна, літаратурай па пчалярству таксама цікавіцца. За год сям'я Бобрыкаў спажывае каля 30 літраў мёду. І грыпу не баяцца, апошнія гады гэтая хвароба сям'ю мінае.

Наведваць Готкавічы і займацца садам і пчоламі – гэта хобі Аляксандра Бобрыка, якое дапамагае адцягнуць думкі ад адказнай работы. Маладзечанскія электрасеткі абслугоўваюць Маладзечанскі, Мядзельскі, Вілейскі і Валожынскі раёны. Аляксандр Бобрык адказвае за надзейнасць работы электраабсталявання ў гэтых раёнах. Рабочая гаспадарка ў героя артыкула вялікая. Ёсць у Аляксандра і прафесійная мара. Ён хоча вынайсці такі хімічны элемент, які свяціўся бы пад уздзеяннем электрамагнітнага поля. Яго можна было б дабаўляць пры вырабе электраправадоў. І правады свяціліся б у момант, калі праз іх праходзіць ток . А то колькі людзей гіне з-за таго, што дакранаецца да правадоў, якія знаходзяцца пад напругай, а на выгляд абсалютна бяспечныя.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ У КАЛІДОРАХ УЛАДЫ

## Напружымся!

**МАЛАДЗЕЧНА. На пасяджэнні гарадскога выканкома, якое прайшло 26 снежня, былі разгледжаны стан эканомікі.**

У асноўным, размова вялася вакол выканання прагнозных паказчыкаў уласных бізнес-планаў прадпрыемстваміі, якія фарміруюць эканамічную карціну ў горадзе.

Завод металаканструкцый, завод жалезабетонных вырабаў, завод металавырабаў, станказавод, швейная фабрыка "Юнона" і іншыя не могуць пахваліцца поспехамі. І не заўсёды прычынай агульная сітуацыя ў краіне.

У некаторых калектывах крытычна нізкія заробкі. Скаргі работнікаў швейнай фабрыкі "Юнона" на свае заробкі ва ўладныя органы не навіна. Прытым, само прадпрыемства – акцыянернае таварыства са 100-працэнтным удзелам акцыянераў, дзе няма дзяржавы. Праблемы прыватнага прадпрыемства мусіць рашаць і дзяржава, калі не хоча, каб праз некаторы час больш за паўтысячы работнікаў фабрыкі-банкрута апынуліся на біржы працы.

У бедах, якія напаткалі "Юнону", дырэктар фабрыкі Вольга Іванова вінавацціла прэсу, якая нібы падагрэе страсці.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ НАШЫЯ ГРОШЫ

# Да рэформаў далёка

Міністэрства статыстыкі падвяло вынікі развіцця эканомікі за лістапад, і яны сумныя – тэмпы росту падаюць, інфляцыя расце. Так, па выніках развіцця краіны ў перадапошнім месяцы года тэмп росту інфляцыі дабраўся да амаль рэкорднага паказчыка за год – упершыню цэны выраслі на 3,2% у месяц. На падставе таго, што зімой цэны звычайна заўжды павышаюцца хутчэй, можна зрабіць вывад, што краіна ўступае ў новы віток рэзкага росту цэн. Пакуль сёлета за студзень-лістапад цэны выраслі ўжо амаль на 31%, хаця іх рост быў спрагназаваны на ўзроўні не вышэй 27%. Нам гэтае не ўдалося, аднак удалося суседзям — у суседняй Расіі цэны выраслі на 14%, а на Украіне наогул знізіліся, як і ў Японіі, на 2%. Рост мінімальнай заработнай платы, стаўкі першага разраду са снежня і павышэнне камунальных тарыфаў на 25% са студзеня непазбежна прывядуць да далейшага росту інфляцыі. Лістападаўскі рост цэн на спажывецкія тавары прывёў да аднachасовага ўсплеску попыту на долары. Па дадзеных Нацыянальнага банка, насельніцтвам у дзень ужо набываецца ў абменных пунктах больш за 5 мільёнаў долараў. Павышаны попыт на замежную наяўную валюту, вядома, прывядзе да адтоку рублёвых зберажэнняў грамадзян у банках. Гэта апраўдана, бо ва ўмовах, калі інфляцыя ў гадавым вылічэнні перавысіць 36%, захоўваць грошы ў банках пад прапануемыя цяпер 34-36% гадавых становіцца нявыгадна. Таму насельніцтва пачынае забіраць свае зберажэнні з рублёвых рахункаў і ў тэрміновым парадку канверсуе іх у наяўныя долары. Далейшы ход развіцця падзей на фінансавым і валютным рынках лёгка вызначаемы. Курс беларускага рубля ўстаяў у рамках запланаванага Нацыянальным банкам калідора 1920-1960 рублёў. Захаванне стабільнасці на рынку ў першыя месяцы наступнага года – пад вялікім сумненнем. Як і ва ўсе папярэднія гады, у першыя зімовыя месяцы курс звычайна расце хутчэй, чым у сярэднім за год. Таму падзенне беларускага рубля да 2300 рублёў за долар ужо да сакавіка-красавіка ўяўляецца ўпаўне рэальным. Усе спробы прывязаць нашую нацыянальную валюту да расійскага рубля закончацца няўдачай. Не будзе і рэальнай адзінай валюты – расійскага рубля. Расія ўступае ў паласу перадвыбарнай гонкі: спачатку ў Думу будуць выбіраць дэпутатаў, затым будуць прэзідэнцкія выбары – таму Масква наўрад ці зможа дапамагаць устойлівасці нашага рубля сваімі крэдытамі, як раней. Ціск на валютны рынак будзе ўсё мацней аказваць з'яўленне на рынку залішніх свабодных наяўных грошай з-за адтоку сродкаў фізічных асоб з дэпазітаў банкаў. Урадам і Нацыянальным банкам на наступны год прагназуецца далейшае зніжэнне ставак з 36-38% да 22-24% гадавых, што наўрад ці будзе садзейнічаць звязванню свабодных грошай, бо не адказвае чаканням сур'ёзных інвестараў.

У цэлым, адсутнасць рэальных рэформ у эканоміцы, адсутнасць прыватызацыі і рэструктурызацыі ў галінах прамысловасці, далейшае ўзмацненне падатковага цяжару на рэальны сектар таксама не ўмацуюць становішча беларускага рубля. У гэтым сэнсе прайшоўшы год асаблівых зрухаў не прынёс. Падобна, што і наступны, 2003-і, не стане пераломным годам рэформаў.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 19.12 руб. | 26.12 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1916,00 | **1919,00** |
| Еўра | 1966,39 | **1971,39** |
| Злоты | 491,47 | **495,74** |
| Літ | 569,66 | **571,02** |
| Расійскі рубель | 60,14 | **60,36** |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1925/1950 | **1925/1950** |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 18.12 | 26.12 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 10900 | **11470** |
| Сасіскі, 1 кг | 4990 | **4990** |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | **2500** |
| Рыс, 1 кг | 720 | **700** |
| Грэчка, 1 кг | 1050 | **1050** |
| Цукар, 1 кг | 865 | **940** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1200 | **1200** |
| Алей, 1 л | 1600 | **1600** |
| Маянэз, 200 г | 380 | **450** |
| Кава «Пеле, 100 г | 2000 | **2000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 600 | **620** |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 700 | **680** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 700 | **700** |
| Капуста, 1 кг | 500 | **450** |
| Морква, 1 кг | 650 | **700** |
| Лімоны, 1 кг | 1900 | **2000** |
| Апельсіны, 1 кг | 1550 | **1600** |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1 л | 750 | **700** |
| Смятана, 1 л | 2000 | **2000** |
| Масла, 1 кг | 4000 | **4000** |
| Тварог, 1 кг | 1700 | **2000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 2000 | **1700** |
| Бульба, 1 вядро | 3500 | **3600** |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | **1000** |

■ ПАСЛУГІ

## Дзень кліента

**МАЛАДЗЕЧНА. У трэці раз раённы вузел паштовай сувязі арганізаваў "Дзень кліента". Ён прайшоў у 4-м аддзяленні сувязі, што ў Зялёным гарадку.**

Дадаткова ўвялі працоўнае месца, каб можна было без чаргі падпісацца на любы часопіс ці газету. Падпісчыкі ўдзельнічалі ў бяспройгрышнай латарэі. У якасці галоўнага прыза, а дакладней іх было 13, – бясплатная падпіска на 3 месяцы на 6 выданняў. Сярод іх і "Рэгіянальная газета". Карысталіся попытам і замежныя каталогі, па якіх можна заказаць і атрымаць поштай ад бялізны да бытавой тэхнікі. Часцей набываюць адзенне, абутак, больш рэдка – дыванчыкі і трэнажоры.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ЭКЗОТЫКА

## Новы год па-французску

МЯДЗЕЛ. У гастраноме райспажыўтаварыства "Ветка сірэні" ў продажы з'явіліся лапкі жаб. Каштуе далікатэс звыш за 56 тысяч рублёў за кілаграм.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ВЫТВОРЧАСЦЬ

## Зроблена ў Маладзечне

**МІНСК. Учора адкрыўся першы ў Беларусі крыты футбольны манеж.**

Галоўны каркас манежа вагой 1200 тон і прафнасціл на дах зрабіў Маладзечанскі завод металаканструкцый. На адкрыцці манежа быў дырэктар ЗМК **Міхаіл Ангерчык**.

**Ірына РАБУШКА.**

# Як весела сустрэць Новы год

**Як правесці навагодні вечар, каб не было нясцерпна балюча за сумнае свята? Калі ў вас сабралася хаця б невялікая кампанія, давайце гуляць. Бо ёсць шмат цікавых і вясёлых гульняў для дарослай, нават трохі падвыпіўшай кампаніі! Некаторыя з іх навагоднія, некаторыя – не вельмі. Але весела будзе ўсім.**



**У дзіцячых садах рэгіёну навагоднія святы ўжо пачаліся. Здымак зроблены з ранішніка ў Маладзечанскім дзіцячым садзе №10.** Фота Ірыны РАБУШКІ.

### Найдзі елачку

Ёсць такі дэзадарант паветра для аўтамабіля "елачка", прадаецца ва ўсіх магазінах запчастак і мае вельмі моцны пах (не абавязкова елкавы). Конкурс заключаецца ў тым, каб знайсці папярэдне схаваную "елачку" па паху.

### Навагодняя ёлка

Для гульні неабходны 1 табурэтка, дзяўчына, шмат прышчэпак. Прышчэпкі чапляюцца на сукенку дзяўчыны, яна становіцца на табурэтку, з кампаніі выбіраюцца 2 чалавекі (можна наогул раздзяліцца на 2 каманды), якія здымаюць з яе прышчэпкі з завязанымі вачыма. Той, хто здыме апошнюю прышчэпку, ці той, у каго будзе больш прышчэпак, здымае дзяўчыну з табурэткі і цалуе столькі разоў, колькі ў яго прышчэпак. Гульню можна праводзіць наадварот, г.зн., на табурэтку становіцца хлопец.

### Без адной

Гульня з'яўляецца мадыфікацыяй "навагодняй ёлкі" і прапануецца кампаніі, дзе ёсць хлопчыкі і дзяўчынкі (дзядзькі і цёткі). Пачынаецца ўсё банальна. На хлопчыка і на дзяўчынку, у якіх завязаныя вочы, прычэпліваецца 5 прышчэпак. Пары завязваюцца вочы, і народ дружна лічыць, як хутка яны пазбавяць адзін аднаго ад прышчэпак. Вядома, балельшчыкам здаецца, што яны б зрабілі гэта хутчэй. Тады ставяць двух добраахвотнікаў, але пятую прышчэпку не чапляюць. Чаго яны толькі не вытвараюць, пакуль народ спачатку дружна лічыць, а потым проста качаецца ад смеху!



**Дзеці больш за іншых чакаюць надыход Новага года.** Фота Ірыны РАБУШКІ.

### Спіртометр

У "цеснай" кампаніі двум падвыпіўшым мужчынам прапануецца праверыць, хто больш п'яны. Для гэтага ім выдаюцца фламастары, а ззаду іх змяшчаюць намаляваную на ватмане шкалу, дзе ўказаны градусы – 20, 30, 40 і вышэй. Задача ўдзельнікаў – нагнуўшыся, працягваючы руку да "спідометра" паміж ног, адзначыць фламастарам градусы на шкале. Кожнаму хочацца быць больш цвярозым, таму градусы на шкале ставяць ад большага ліку да меншага, каб гульцы цягнулі рукі вышэй. А каб спіртометр быў навагоднім, малюем на ватмане ёлачку, яе ствол і будзе шкалой.

### Падарунак для самага смелага

У памяшканні, дзе будзе праходзіць свята, паставіць невялікую скрыначку на высокае (вышэй чалавечага росту) месца, напрыклад, шафу. У скрынцы павінны быць верх і не павінна быць дна. Звонку наклеіць яркі, каб было бачна здалёк, надпіс "падарунак для самага смелага" і запоўніць скрыначку канфеці. Госць ўваходзіць у памяшканне, бачыць скрыначку з такой назвай і што робіць? Вядома ж, здымае з шафы. А скрынка ж без дна.

### Міргалы

Усе садзяцца ў кола. Народу павінна быць няцотная колькасць. Спачатку жадаючыя садзяцца на крэслы, пакінуўшы адно крэсла пустым, потым астатнія становяцца за крэсламі, рукі за спіной. Адпаведна, у аднаго пары няма. Яго задача – нябачна падміргнуць тым, хто сядзіць. Іх задача – убачыць, што яму падміргнулі, і хутка перасесці на свабоднае крэсла. Задача тых, хто стаіць за крэсламі – убачыць, што яго пары падміргваюць, і паспець яе ўтрымаць, паклаўшы ёй рукі на плечы. Калі ён не паспявае, то ён застаецца без пары, і сам пачынае міргаць.

### Вяровачка

Неабходна, каб большасць удзельнікаў да гэтага ў гульню не іграла. У пустым пакоі бярэцца доўгая вяроўка, і нацягваецца лабірынт так, каб чалавек, які будзе праходзіць, дзесьці прысеў, дзесьці пераступіў. Запрасіўшы чарговага гульца з суседняга пакоя, яму тлумачаць, што ён павінны з завязанымі вачыма прайсці гэты лабірынт, папярэдне запомніўшы знаходжанне вяроўкі. Гулец адпраўляецца ў шлях, пераступае і падлазіць пад вяроўку, якой няма. Гледачоў загадзя просяць не выдаваць сакрэт гульні.

### Змяіны клубок

Пішуцца паперкі з назвамі частак цела і скручваюцца так, каб нельга было прачытаць, і складваюцца ў які-небудзь мяшок. Затым першыя два чалавекі бяруць па паперцы. І прыціскаюцца тымі часткамі цела, якія ўказаныя ў паперцы. Затым другі чалавек выцягвае другую паперку, дзе напісана, да якога месца павінны прыціснуцца трэці чалавек. Далей сваю паперку (дакладней, дзве, але па чарзе) выцягвае трэці. І такім чынам па ланцужку, пакуль не закончацца ўсе ўдзельнікі гульні, потым усё пачынаецца спачатку, але не трэба расчэплівацца. Першы хапаецца за апошняга, другі за першага, і пакуль не закончацца паперкі ці пакуль будзе хапаць гнуткасці. Больш за ўсё смешна вядучаму, які бачыць гэтую абракадабру.

### Не прալі!

Усе госці сядзяць за сталом і па кругу перадаюць шклянку. Кожны налівае ў шклянку трохі якога-небудзь напітку. Апошні, у каго шклянка перапоўніцца і напітак перальецца цераз край, павінны сказаць тост і ўсё выпіць.

### З мукой на твары

Два хлопцы садзяцца за стол насупраць адзін аднаго. Перад імі кладзецца яйка. Хлопцам прапануецца з закрытымі вачыма перадзьмуць яйка на бок праціўніка. Завязваюцца вочы, а замест яйка ціхенька ставіцца талерка з мукой. Па камандзе ўдзельнікі пачынаюць дзьмуць, з добрымі балельшчыкамі атрымліваецца такі эфект! Усе задаволеныя, і ўдзельнікі часта таксама. А чаму хлопцы, а не дзяўчаты? Як правіла, на святах дзяўчаты вельмі добра выглядаюць.

### Ваенная падрыхтоўка

Гуляюць дзве каманды. Выйграе тая, якая першай выканае заданне вядучага. Ён аб'яўляе тэму, напрыклад, "па росту", удзельнікі кожнай каманды павінныя выстраіцца па росту (ці то з меншага, ці то з большага, па дамоўленасці). Далей: колер вачэй; паверх, на якім жывём; колькасць літараў у імёнах; узрост; памер нагі і г.д. Наколькі хопіць фантазіі.

### Рысавальшчыкі

Вядучы выклікае 2-3 пары гульцоў. Яны ўсаджваюцца за стол блізка адзін ад аднаго. Аднаму завязваюць вочы, кладуць перад ім ліст паперы і даюць ручку ці карандаш у руку. Усе астатнія задаюць кожнай пары заданне – нарысаваць навагоднюю карцінку. Гулец у кожнай пары, у якога вочы не завязаныя, уважліва сочыць за тым, што рысуе яго сусед і падказвае яму, куды весці ручкай, у які бок. Той слухае і рысуе тое, што яму гавораць. Перамагае пара, якая хутчэй і лепш выканае рысунак.

### Вогнетушыцель

Гульцам прывязваюць на рамень вяроўкі, на канцы якіх прымацаваныя ці запалкавыя каробкі, ці намочаная вата. Перад гульцом ставіцца па запаленай свечцы. Канкурсантам трэба як мага хутчэй без дапамогі рук патушыць свечку...

# Новы год ідзе і Казу вядзе

**Сёння мы часта звяртаемся да ўсходняга гараскопа, у якім кожны год мае свайго "гаспадара". Гэтай зімой Конь перадае права патрона года Казе.**

## Каза – істота капрызная ...

Усходняя Каза – істота капрызная, элегантная, артыстычная, любіць прыроду. Яна магла б(быць самым прыязным з усіх знакаў, каб не было ў яе характары песімізму, неспакою, надаедлівасці і пастаяннага незадавальнення сваім лёсам. Каза заўжды вагаецца паміж некалькімі варыянтамі паводзін, можа сваімі капрызамі павергнуць ў адчай сваіх блізкіх. Акрамя таго Каза – захопніца. Хаця і не асэнсоўвае гэтага. Яе недысцыплінаванасць, сістэматычныя спазненні з-за адсутнасці адчування часу робяць Казу нясцерпнай. Але Каза ўмее падабацца, калі гэта ў яе інтарэсах. Таксама яна можа выкарыстоўваць іншых і жыць за іх кошт. Нягледзячы на гэта, у Казы няма незалежнасці, яна лёгка прыстасоўваецца да любога ладу жыцця з таго моманту, калі ёй забяспечваюць мінімум бяспекі.

## ... але добрая

Нягледзячы на ўсе яе заганы, Каза з'яўляецца добрай і нават слаўнай. На справе яна схільная да дабрачыннасці, ахвотна дапамагае іншым, больш няшчасным, чым яна сама. Аднак, на жаль, часта Каза дзеліцца тым, што ёй зусім не належыць. У апраўданне патрэбна сказаць, што ў Казы няма ніякага адчування ўласнасці. Яна лёгка дазваляе сябе прывязваць, але заўжды цягне сваю вяровачку. Сцвярджаецца, што Каза, якая пасецца на добрым лузе, будзе больш спакойнай і паслухмянай у параўнанні з Казою, якая пасецца на лузе з дрэннай травой. Апошняя будзе бесперапынна мекаць і скардзіцца на лёс.

Усё, што б ні адбылося з Казой, успрымаецца ёй так, як быццам бы ад самой Казы нічога не залежыць. Ніколі нічога не бывае па яе віне. Усім жыццём кіруюць іншыя ці проста лёс.

Нядобрасумленнасць Казы прыводзіць у замяшанне. У яе няма ніякай адказнасці, ініцыятывы і волі. Можа здавацца, што Каза камандуе, аднак цяжка падмануцца – яна больш здатная для таго, каб слухацца. Пры станоўчым уплыве Каза можа дасягнуць поспеху ў якой-небудзь галіне мастацтва, бо ў яе ёсць і густ, і талент. Яна таксама можа быць здатным спецыялістам, паспяхова выконваць работу, што уключае ў сябе тэхнічны і артыстычны бок. Каза даволі разумная, але ніколі яна не будзе адыгрываць першую скрыпку. Гэта нават лепш для яе. Ва ўмовах спакойнай працы Каза вельмі здатны кампаньён, можа быць добрым начальнікам. Сутнасць Казы, напоўненая фантазіямі, мае патрэбу ў цвёрдай волі, пры ўмове, што яе пастаянна хваляць.

## Шлюб і каханне

Каза жадае спакойнага жыцця і марыць пра шлюб, які прынясе ёй багацце, ці пра велікадушнага мецэната. Каза з'яўляецца прыдатным матэрыялам для стварэння як нахлебніка, так і магутнай творчай асобы. Усё залежыць ад абставін. Але звычайна Каза дрэнны камерсант. Не быць ёй таксама ні добрым камандзірам, ні добрым салдатам. Пры дрэнным павароце лёсу Каза можа скончыць жыццё пад мастом. Аднак у пошуках асабістага камфорту яна праяўляе вялікія здольнасці грукаць у патрэбныя дзверы, бо камфорт Казе небходны для унутранай раўнавагі.



Гэты малюнак зрабіла вучаніца Маладзечанскай мастацкай школы Аня Мучынская.

Даволі часта Каза сутыкаецца з праблемамі ў каханні. Яе жыццё ў пачуццёвых адносінах вельмі бурнае. Аднак калі Каза звязвае сваё жыццё з Катом, Парсюком ці Канём, усё можа пайсці добра. Гэтыя знакі здольныя забяспечыць ёй шчасце, але па розных прычынах. Капрызы Казы забаўляюць Ката, Парсюк здольны іх вытрымліваць да пэўнай рысы, яны не кранаюць эгаіста-Каня. Ніякі іншы знак не зможа выносіць Казу надта доўга, асабліва Бык. Каза думае толькі пра сябе. У каханні і працы абавязкова парвецца сувязь паміж Казой і Сабакам. Гэтыя два песімісты ўсё жыццё былі б быццам у жалезным ашыйніку, незадаволеныя адно адным. Ва ўсялякім выпадку, Каза ніколі не будзе трымаць пад абцасам свайго партнёра, якога б знаку ён ні быў.

Астролагі раяць памятаць, што на добрым лузе без матэрыяльных клопатаў і з добрымі дарадчыкамі Каза можа дасягнуць вялікіх поспехаў. Адрозніваюцца адна ад адной таксама Козы, народжаныя пад рознымі знакамі задыяку.

## Беларуская каза

Беларуская фальклорная каза таксама істота з характарам. Яна верны спадарожнік калядоўшчыкаў і здольная выганяць са двара нячысцікаў. Дапамагае яна разлічваць і на добры прыплод у гаспадарцы, ураджай на полі.

У большасці населеных пунктаў у "казу" ці "казла" пераапранаўся больш гаваркі хлопец, якому адзявалі вывернуты кажух і маску казы. Апошнюю магла замяняць шапка з аўчыны, але былі і сапраўдныя шэдэўры. Выразаную з дрэва галаву-маску абшывалі аўчынай, прымацоўвалі да яе рогі з лазы ці скуткаў саломы, вушы са сталовых лыжак. Ніжняя сківіца з барадой рабілася рухомай. Вядома і "каза" ў выглядзе вялікай лялькі на кіі, якую вадзіў "дзед". Яго таксама прыбіралі ў вывернуты кажух або рыззё, на спіне рабілі горб, надзявалі берасцяную маску з ільняной барадой.

Ад выступлення "казы" часта залежаў агульны падарунак калядоўшчыкам. Выканаўца павінны быў правільна разлічыць момант свайго "вяртання да жыцця", каб, з аднаго боку, не пакрыўдзіць гаспадароў, а з другога, выпрасіць як мага больш пачастунку.

## Гісторыя навагодняга свята

Навагоднія ўрачыстасці ў беларусаў маюць сваю гісторыю. У дахрысціянскую эпоху нашыя продкі святкавалі Новы год з 1 сакавіка па летазлічэнні ад стварэння свету. Традыцыя пачатку Новага года ад вясны мела ў народзе даволі моцныя і трывалыя карані, і нават пасля пераходу на "зімовы" варыянт засталася ў абрадах гукання вясны.

У часы сярэднявечча сустрэча Новага года праходзіла ў кантэксце калядных святак. Гэта быў перыяд актыўнага хаджэння калядоўшчыкаў і звездароў і віншаванняў імі мясцовых жыхароў. Аднак побач з каляднымі матывамі ўсё часцей паўстаюць і спецыяльныя навагоднія пажаданні і зычэнні.

Удала супала па часе з Новым годам другая калядная куцця, калі на стол ставілі многа ўсялякіх прысмакаў. Нават сама куцця – абавязковая калядная страва ў выглядзе кашы з ячных ці іншых крупаў – падавалася на стол з маслам альбо мясам. Шчодрасць сямейнай вячэры асацыіравалася з багаццем і дастаткам у Новым годзе.

У Расіі яшчэ ў XVII стагоддзі 1 студзеня лічыўся звычайным днём. Але па загаду Пятра І ад 15 снежня 1699 года на Русі быў уведзены новы каляндар, пунктам адліку часу ў якім было Раство Хрыстова. Таму, калі напачатку XIX стагоддзя ўся тэрыторыя Беларусі была далучана да Расіі, навагодняе свята ў нашым краі пачынае набываць больш канкрэтызаваны сэнс. Яно праводзілася па расійскім ўзоры: з карнаваламі, феерверкамі, народнымі гуляннямі. Але на вёсцы традыцыі святкавання заставаліся больш каляднымі.

## Варажба на Новы год

Навагодняя ноч таксама лічыцца прыдатнай для варажбы. Можна выкарыстоўваць усе вядомыя метады каляднай варажбы. А калі вы вырашылі загадаць жаданне, то тут могуць дапамагчы "чатыры тузы".

Вазьміце звычайную калоду з 36 карт і старанна іх,пераатасуйце. Разлажыце іх рубашкамі ўніз на чатыры роўныя часткі. З першай здымайце карты да той пары, пакуль не з'явіцца туз. Потым паглядзіце наступную за ім карту. Калі гэта зноў будзе туз, то далучыце яго да першага і адкрыйце наступную карту. Туза патрэбна адкласці да калег, а любую іншую разам з астатнімі картамі – ў адбой (яны больш не спатрэбяцца). Вам патрэбна знайсці ў кучцы тузы, што ідуць адзін за адным. Напрыклад, спачатку ідзе туз, затым простая карта і потым зноў туз. Вам патрэбны толькі першы. Усе астатнія карты і тузы, што следам не ідуць, трапляюць у адбой.

Пасля прагляду ўсіх чатырох стосаў карт вы можаце знайсці ад аднаго да чатырох тузоў. Загаданае жаданне збудзецца, калі вы атрымалі "чацвёрку", "тройка" указвае на скорае здзяйсненне задуманага, "двойка" – на доўгі шлях да мэты, а адзін туз не пакідае ніякіх надзей.

Можна таксама варажыць праз кіданне манеты ў ваду. Чашу напаўняюць вадой з непачатага вядра. Калі выкарыстоўваецца звычайны кран, то чашу напаўняюць тры разы, двойчы выліваючы ваду. Манетка павінна быць тонкая і дробная. З вышыні свайго росту яе кідаюць рабром у ваду. Калі ад вады адаб'ецца і выскачыць – усё загаданае збудзецца. Калі ж зваліцца плашмя, патоне і арлом угору пакладзецца – усё добра будзе, рэшкай – цяжкасці на шляху да задуманага чакаюць.

Напярэдадні Новага года клалі на падаконнік у сенцах ці на верандзе, у халоднай частцы дома ці за акно столькі кавалачкаў хлеба, колькі варажыла дзяўчат. Гэтыя кавалкі павінны былі праляжаць усю ноч. Свой кавалачак кожная дзяўчына памячала ніткай. Калі цэлым заставаўся кавалак – год будзе шчаслівы, калі быў з'едзены – шчасця трэба пачакаць.

Падрыхтаваў Вадзім ЗУБРЫЦКІ.

# Падзеі, людзі, факты 2002 года

## Жыве фестываль «Адна зямля»!



Пераможца сёлетняга фестывалю "Адна зямля" Казімір Талстыка. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**АСТРАВЕЦ. На рэгіянальным фестывалі-конкурсе выканаўцаў эстраднай песні "Адна зямля", што прайшоў 14 ліпеня ў Рымдзюнах, некаторыя з'явы здарыліся ўпершыню.**

Упершыню фестываль праходзіў на закрытай пляцоўцы, пад дахам Рымдзюнскага Дома культуры. Упершыню ў адной ўзроставай катэгорыі журы не вызначыла пераможцу. Затое ў іншай такіх аказалася адразу два. Першы раз у гісторыі фестывалю ўдзельніцу выключылі з ліку прэтэндэнтаў на прызы пасля пратэсту з боку кіраўнікоў раённых аддзелаў культуры. Члены журы выбралі тройку прэтэндэнтаў на перамогу ў малодшай групе і пачалі размяркоўваць прызавыя месцы паміж імі. Але ў пакой увайшла загадчыца Астравецкага раённага аддзела культуры **Данута Чарнушэвіч** і сказала, што ўдзельніца з Маладзечанскага раёна **Вольга Ільіч** не адпавядае ўмовам правядзення фестывалю. Дзяўчыне не споўнілася 15 гадоў. Вольга Ільіч засталася па-за конкурсам. Але з Рымдзюн яна паехала не з пустымі рукамі: Вольга атрымала ад "РГ" французскі прас – як творчая надзея фестывалю.

Упершыню Гран-пры фестывалю паехаў у Вілейку. І журы, і гледачы адзінадушна прызналі лепшым **Казіміра Талстыку**. Апладысменты пасля яго песень "Край верасовы" і "Зачарованная ночь" не змаўкалі некалькі хвілін.

Пяты фестываль-конкурс "Адна зямля" пройдзе наступным летам у Смаргоні.

**"РГ" №29 ад 19 ліпеня.**

## Лепшую даярку завуць ... Яўген

**МЯДЗЕЛ. Яўген Русак зрабіў сенсацыю: малады хлопец (крыху за дваццаць гадоў мае), надаіў малака больш за ўсіх у раёне.**

Тым самым змяніў уяўленні пра тыпова жаночыя прафесіі. Яўген, як і даўней, лічыць, што карова – гэта другая маці. Калі служыў у арміі, то лісты адтуль не толькі дахаты пісаў, але і на ферму – пытаўся, як там яго рагулі маюцца.

Бачна, што яго, Яўгенава справа, кароў даіць. Падабаецца гэта, і ўсё. Засмучае, што амаль без выхадных даводзіцца працаваць. Цяжкавата так.

Пэўна, я не змог бы жыць у горадзе, – гаворыць Яўген, – балконы маленькія.

– Не зразумеў...

– А дзе ж я на такіх маленькіх жыўнасць сваю пасялю...

**"РГ" №4 ад 25 студзеня.**

У гэтым годзе 22-гадовы Яўген Русак па-ранейшым найлепшы даяр у раёне. Ён ужо перасягнуў паказчык у 4000 кг малака ад каровы, чаго некалькі год на Мядзельшчыне не было. Яўген выбраны старшынёй раённага клуба апаратаў машыннага даення-трохтысячнікаў.

А ў лістападзе браў удзел у абласных "Дажынках", дзе хлопца ўзнагародзілі музычным цэнтрам.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Яўген Русак летась надаіў больш за ўсіх малака ў раёне. Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

## Адсудзіў правa на зарплату

**АСТРАВЕЦ. Раённы суд абавязаў улады своечасова выплачваць зарплату настаўніку Мікалаю Уласевічу.**

31 студзеня суддзя **Іван Яноўскі** вынес рашэнне і абавязаў Астравецкі раённы аддзел адукацыі выплачваць істцу зарплату 16 чысла кожнага месяца і аванс 26 чысла гэтага ж месяца. У выпадку нявыплаты ва ўстаноўленыя тэрміны адказчык у асобе загадчыка Астравецкага раённага аддзела адукацыі будзе прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў памеры 10 мінімальных заробатных плат.

**"РГ" №6 ад 8 лютага**

## Зробім з бальніцы выцвярэзнік

**МАЛАДЗЕЧНА. Мінскі аблвыканком выдаў распараджэнне аб ліквідацыі з 1 мая медвыцвярэзнікаў па ўсёй вобласці.**

Прычына – бюджэт не можа фінансаваць гэтыя ўстановы ў поўным аб'ёме. Па гэтым пытанні 10 красавіка прайшла нарада ў гарвыканкоме.

Удзельнікі нарады хацелі абавязаць ГРАУС і далей займацца п'янымі. Урэшце рэшт прапанавалі галоўнаму ўрачу ГТМА **Казіміру Клыгу** адкрыць спецыяльнае аддзяленне ў гарадской бальніцы, але ўрач быў рэзка супраць.

**"РГ" №15 ад 12 красавіка.**

## Пажар у музеі Максіма Багдановіча

**МАЛАДЗЕЧНА. У канцы ліпеня згарэў музей Багдановіча ў Ракуцёўшчыне. Хутчэй за ўсё гэта быў падпал, але вінаватых пакуль не знайшлі.**

Загадчыца філіяла літаратурнага музея Максіма Багдановіча "Фальварак Ракуцёўшчына" **Клаўдзія Мамай** лічыць, што "павесяліліся" моладзь, якая адпачывала непадалёку. У выніку агонь знішчыў 270 экспанатаў, сабраных музейшчыкамі жыхарамі. Пры фальварку ёсць конь, яго выратавалі, а ўжо амаль гатовая да рэстаўрацыі брычка згарэла, як і ўсе рэчы пачатку XX стагоддзя.

Асабліва шкада аддзення, якога ўжо, напэўна, не знойдзеш. З дакументацыяй і фотаздымкамі дапаможа музей Багдановіча ў Мінску.

**"РГ" №36 ад 6 верасня**



Ад трох дапаможных будынкаў філіяла літаратурнага музея Максіма Багдановіча засталося папялішча. Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

## Навагоднія і калядныя віншаванкі ад сяброў «РГ»

З надыходзячымі Раством і Новым годам віншуе рэдакцыю і чытачоў "Рэгіянальнай газеты" **калектыў Мінскага абласнога драматычнага тэатра**. Жадаем здароўя, поспехаў, шчасця, усяго найлепшага ў новым 2003 годзе. Дырэктар тэатра С.Валькoвіч.

Вясёлых Каляд і памыснага Новага году жадае ўсім сваім сябрам і партнёрам **Беларуская асацыяцыя журналістаў**.

Дарагія сябры і калегі, сардэчна віншуем вас з надыходзячым Новым годам і Раством! Жадаем поспехаў у прафесійнай дзейнасці, гармоніі і шчасця ў жыцці. З найлепшымі пажаданнямі, **IREX/ProMedia, Беларусь**.

Прыміце нашыя шчырыя пажаданні поспехаў і росквіту ў Новым годзе. Дзякуй за тое, што вы з намі. **ТАА "Бел-Макс", Маладзечна**.

Найлепшыя пажаданні з нагоды Божага Нараджэння і Новага года! Шчасця, поспехаў, здароўя, усмешак, вернасці і радасці! **Сева Рагойша, Мінск**.

**Таварыства беларускай мовы** віншуе творчы калектыў і ўсіх супрацоўнікаў Вашага выдання з Калядамі і Новым годам. Вясёлых Вам святаў і шчаслівага Новага года. Старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў.

## Лепшая роля – іграць саму сябе



Уладальніца прыза за лепшую жаночую ролю на тэатральным фестывалі "Малая сакавіца" Насця Траскевіч. Фота Ірыны РАБУШКІ.

**МАЛАДЗЕЧНА. Дзевяцікласніца сярэдняй агульнаадукацыйнай школы мастацтваў Насця Траскевіч атрымала прыз за лепшую жаночую ролю на тэатральным фестывалі "Малая сакавіца".**

Дзяўчынку трэба было аддаваць у школу. У пачатку 90-х у моду ўвайшлі класы з рознымі ўхіламі. Бацькі вырашылі аддаць дачушку ў англійскі клас. На экзамене Насця чытала Ніла Гілевіча. Рашэнне камісіі было адзінадушным – у тэатральны.

У 2000-м тэатральны клас ператварыўся ў тэатральную студыю "Кипяток". З новай назвай і новае жыццё распачалося. Абралі "Паўлінку". Галоўную ролю даручылі Насці Траскевіч. Гэты спектакль і ролю ў ім лічыць самым-самым. Прыз – насценны гадзіннік – за лепшую жаночую ролю на "Малой сакавіцы" дастаўся Насці.

Тэатр дапамагае Насці ў жыцці. Гэта адбіваецца на ўсім, што яна робіць. Голас. Пластыка. У зносінах з людзьмі можа ўваходзіць у іншы вобраз. І ніхто не здагадваецца.

Пайсці ў артысты сабе Насця не дазваляе, бо ёсць іншае захапленне – геаграфія.

**"РГ" №18 ад 3 мая**

## Раскопкі ў Красным

**МАЛАДЗЕЧНА. Астанкі шасці ваеннапалонных часоў другой сусветнай вайны знайшлі салдаты, што праводзяць раскопкі ля Краснага.**

Работу вядзе першая спецыялізаваная рота 52-га спецбатальёна з Мінска. Жыхар Краснага паказаў 2 месцы, дзе падчас вайны знаходзіліся канцлагеры. На месцы захаванняў у пасляваенны час засталося поле, якое, зразумела, выкарыстоўвалі па свайму назначэнню:аралі, вырошчвалі збожжа. Калі на раскопкі прыехаў спецыяльны батальён, сведка ваенных падзей сказаў, што яму можна паміраць спакойна.

**"РГ" №36 ад 6 верасня.**

# ў публікацыях «РГ»

## Амерыканскі пасол у Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. З 13 па 22 лютага ў горадзе праходзілі дні амерыканскай культуры. На іх адкрыццё ў цэнтральную бібліятэку імя Багдановіча прыехаў Надзвычайны і паўнамоцны пасол ЗША ў Беларусі Майкл Козак.**

Ён удзельнічаў у адкрыцці інтэрнэт-класа і аддзела літаратуры на замежнай мове. Амерыканцы не абмежаваліся пераразаннем стужачкі. Камп'ютэрны клас адкрыўся ў рамках праграмы Цэнтра культуры, інфармацыі і адукацыі пры пасольстве ЗША. Большую частку літаратуры на замежных мовах таксама прывезлі амерыканцы.

Майкл Козак падарыў дырэктару гарадской бібліятэчнай сістэмы **Ніне Артышэвіч** кнігу пра Амерыку, а ўзамен ад гарадскіх уладаў атрымаў саламяную ляльку з надпісам "Маладзечна-2002" і буклет пра горад.

У рамках дзён амерыканскай культуры ў бібліятэках запланаваны шэраг мерапрыемстваў. Гэта віктарыны, лекцыі, выстаўкі літаратуры, прагляд відэафільмаў на амерыканскую тэматыку.

Хор дзіцячай музычнай школы выканаў песні на беларускай і англійскай мовах, чым узрушыў пасла.

**"РГ" №7 ад 15 лютага.**



**Пасол ЗША у Беларусі Майкл Козак у аддзеле літаратуры на замежнай мове Маладзечанскай гарадской бібліятэкі імя Багдановіча.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Курс на вывучэнне японскай мовы

**МАЛАДЗЕЧНА. Такі шлях абрала для сябе маладзечанка Юля Паплёўка.**

Яна паступіла на перакладчыцкі факультэт Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта. Яна будзе вывучаць японскую і англійскую мовы. Усяго залічана 12 чалавек. Конкурс быў 7 чалавек на месца. Набор – раз у 5 гадоў.

За 2 тыдні да экзаменаў у роднай сярэдняй агульнаадукацыйнай школе мастацтваў Юля вярнулася ў Маладзечна з Амерыкі, дзе год правучылася. Гаворыць, што вучоба ў Амерыцы, акрамя ведання англійскай мовы, амаль нічога не дала. Але яна ўсё ж атрымала залаты школьны медаль.

**"РГ" № 32 ад 9 жніўня.**



**Студэнтка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта Юлія Паплёўка.** Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Адкрыўся Маладзечанскі Палац культуры

**МАЛАДЗЕЧНА. У гарадскім Палацы культуры праходзіць тыдзень адчыненых дзвярэй.**

Нямногія маладзечанцы ведаюць, што змяшчае новы палац, які адкрыўся 17 кастрычніка, а будаваўся з 1988 года. За дзень у палацы праходзіць па 20-30 экскурсій.

Іх праводзяць для арганізацый, устаноў, а таксама для ўсіх гараджан, што жадаюць прайсціся па доўгіх калідорах палаца. Экскурсію прапаноўваюць прама на месцы.

Падчас экскурсіі людзі актыўна задаюць пытанні. Прыкладам, ці можна будзе зарэгістраваць шлюб. Уражваюць наведвальнікаў вялікія свяцільні. Часта пытаюцца, колькі лямпачак у самай вялікай. Аказваецца, 170.

**"РГ" №43 ад 25 кастрычніка.**

## Прэзідэнт адкрыў школу

**МАЛАДЗЕЧНА. 2 верасня на адкрыццё СШ №14 прыязджаў Аляксандр Лукашэнка.**

Аляксандр Лукашэнка пераразаў чырвоную стужку перад уваходам у школу і адкрыў "храм ведаў" сімвалічным ключом. Пасля экскурсіі па школе прэзідэнт нават пагуляў у тэніс на першым у горадзе корце, які ўлажылі на школьнай спартыўнай пляцоўцы, і пагаварыў з маладзечанцамі.

Разам з прэзідэнтам прыехалі старшыня Мінскага аблвыканкома, члены ўрада і іншыя высокапастаўленыя чыноўнікі.

**"РГ" № 36 ад 6 верасня.**

## Газавая атака ў Валожыне

**ВАЛОЖЫН. 27 лістапада адразу пасля заканчэння чацвёртага ўрока ў фае СШ №2 райцэнтра распылілі балончык са слезатачывым газам.**

13 школьнікаў даставілі ў раённую бальніцу. Стан чацвярых дзяцей пры паступленні ацэньваўся як сярэдняй цяжкасці. Дзеці скардзіліся на галаўны боль, пякоту ў горле, галавакружэнне.

Па падазрэнні ў злачынстве затрымалі 19-гадовага валожынца, які нідзе не вучыцца і не працуе. Хлопцу "свеціць" ад 1 да 6 гадоў пазбаўлення волі.

**"РГ" №48 ад 29 лістапада**



**Вучаніца 7 "А" класа Валожынскай СШ №2 Алеся Пракаповіч ад газавай атакі пацярпела больш за іншых.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Школьнік зрабіў сайт пра Смаргонь

**СМАРГОНЬ. 11-класнік Дзмітрый Вянско зрабіў сайт пра Смаргонь.**

Хлопец працаваў над сваёй задумай тры месяцы. З'явілася вялікае жаданне даведацца пра Смаргонь. Цяпер на Дзіміным сайце 4 рубрыкі. 13-18-гадовыя падлеткі могуць убачыць сябе ў фотагалерэі. На іншай старонцы вы даведаецеся пра гісторыю горада.

Інфармацыю Дзіма абнаўляе раз на тыдзень. Усяго з пачатку адкрыцця сайта ў госці да школьніка "завітала" каля трох тысяч чалавек.

**"РГ" №32 ад 9 жніўня.**

## Ваша школа замініраваная

**Гэтыя словы сказаў раніцай 1 лютага невядомы мужчына, які патэлефанаваў у Маладзечанскую СШ №7.**

Узяла трубку намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце **Тамара Сіманенка**:

Званіў ці то дарослы, ці то старшакласнік. Праз 2-3 гадзіны прыехалі работнікі міліцыі і пажарныя, "хуткая дапамога". Школьнікі былі ўжо ў класе, але заняткі яшчэ не пачаліся. Дзецям сказалі апрануцца і пакінуць школу па прычыне тэхнічнай няспраўнасці сістэмы ацяплення. Гэта мы сказалі, каб не ўзнімаць паніку. Адкрылі дадатковы выхад, і ўсе цывілізавана выйшлі. Пасля работнікі міліцыі ачапілі вуліцу і пачалі праверку будынка школы. Праверка завяршылася каля 11 гадзін. Нічога падазронага не знайшлі.

**"РГ" №6 ад 8 лютага**



**1 лютага. Вучні Маладзечанскай СШ №7 у той дзень прагулялі ўрокі.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Сапраўдная сям'я – сем «я»

**Сям'я Тамары і Канстанціна Самалёў з Маладзечна заняла першае месца на абласным конкурсе "Лепшая мнагадзетная сям'я-2002". Яны выхоўваюць 5 дзяцей – 19-гадовую Эліну, 14-гадовую Нілу, 12-гадовага Данілу, 10-гадовую Валерыю і 2-гадовага Давіда.**

Тамара ўсе імёны дзецям прыдумала сама. Хацелася, каб дзеці чымсьці вылучаліся. Пражылі разам Тамара і Канстанцін 20 гадоў. І ніводнай сваркі, ніводнага скандалу.

За перамогу ў конкурсе сям'я Самалёў атрымала мільён рублёў, чайны сервіз, ласункі, боцікі, касцюм, джынсы, цырату на стол і паркалёвую тканіну.

**"РГ" №19 ад 10 мая**

## Японскія «прыгоды» Пятра Краўчанкі

**МАЛАДЗЕЧНА. Былы пасол Беларусі ў Японіі і Філіпінах Пётр Краўчанка на гэтым тыдні стаў героем інфармацыйных перадач і газетных артыкулаў.**

Шум узняўся з-за таго, быццам бы Пётр Краўчанка пасля таго, як прэзідэнт вызваліў яго з пасады, не збіраўся вяртацца на Радзіму.

Герой дыпламатычнага скандалу нарадзіўся ў Маладзечне. Тут жыве маці і сям'я роднага брата Аляксандра. Радня даведалася пра канфлікт у суботу з перадачы на тэлеканале НТВ. У нядзелю Пётр Краўчанка патэлефанаваў з Японіі і сказаў, што з ім усё добра.

**"РГ" №49 ад 6 снежня**

■ ГАРАДКІ

# Ударная канцоўка сезона-2002

**Гарадошнікі ўдарна правялі канцоўку сезона, якая ўмясціла некалькі спаборніцтваў розна-га рангу.**

### Чэмпіянат Еўропы

Верхняя Пышма Свярдлоўскай вобласці Расіі прыняла ўдзельнікаў традыцыйнага зімовага чэмпіянату Еўропы, які сёлета адначасова з'яўляўся заключным, пятым этапам кубкавага розыгрышу гэтага года.

Беларусы адметна выступілі ў камандных спаборніцтвах, заняўшы рэдкае для сябе (у спаборніцтве з некалькімі калектывамі Расіі і Украіны) трэцяе месца. Ездзілі трое маладзечанцаў (**Генадзь Сушко, Аляксандр Філістовіч, Аляксандр Яршэвіч**), два спартсмены з Бярозаўкі (Юрый Багмут, Анатоль Урбан) і мінчанін Ігар Лімберг. Праводзіўся турнір па стандартных правілах, што тычыцца і формулы спаборніцтваў, і кругласці гарадкоў.

Пачалося ўсё з трохдзённай барацьбы ў асабістым заліку. Тройку прызёраў у выніку склалі расіяне. Першынстваў з выдатным вынікам у 113 бітаў Васіль Духанін, далей размясціліся Уладзімір Песцераў (115) і Іван Матавілаў (120). Лепшымі з беларусаў былі маладзечанцы Яршэвіч (11 месца, 124), Сушко (15 месца, 128), Філістовіч (22 месца, 133). Невысокія месцы нашых землякоў, як, дарэчы, і ўкраінцаў таксама, можна патлумачыць далёкай двухсутачнай дарогай, а таксама зменамі часавых паясоў: даводзілася выходзіць на пляцоўку у пяць раніцы па беларускім часе.

Асноўная стаўка беларусамі рабілася на камандную барацьбу.

Гулялі шэсць каманд (у складзе 6 чалавек) у круг. Пачалі з разгрому 3:0 Расіі-2 (5 выніковае месца, 3 ачкі), якой раней часта прайгравалі. Потым была нічыя 2,5:2,5 з Украінай (2 месца, 7 ачкоў), прычым дадатковы паказчык па лепшай партыі аказаўся на нашу карысць, што давала б перавагу ў выпадку роўнай колькасці набраных ачкоў. Наступны матч, як стала вядома потым, пазбавіў беларусаў другога месца: нічыя 2,5:2,5 з маладзёжнай зборнай Расіі (6 месца, 1 ачко), якая больш ачкоў і не набрала. Расіі-1 (1 месца, 10 ачкоў), не страціўшай ніводнага ачка, саступілі 1:3. Разгром 3:0 Расіі-3 (4 месца, 3 ачкі) ужо нічым дапамагчы не мог. З 6 ачкамі занялі 3 месца.

У агульным заліку па выніках усіх этапаў Кубка Еўропы пяцёрка мацнейшых выглядае наступным чынам: 1. Васіль Духанін – 530 ачкоў. 2. Уладзімір Палякоў – 500. 3. Генадзь Сушко – 370. 4. Аляксандр Мярзянаў – 325. 5. Уладзімір Песцераў – 295. Як бачым, ганаровае трэцяе месца заняў маладзечанец Сушко. Ён укліняўся ў спіс з дзесяці расіянаў. Лепшы ўкраінскі гарадошнік Аляксандр Бабіч стаў толькі дванаццатым. Дарэчы, 13 месца ў Аляксандра Філістовіча. Трэцім з маладзечанцаў і ўсіх беларусаў стаў **Віктар Данілаў** (агульны 18 радок).



Удзельнікі міжнароднага турніру ў нямецкім горадзе Карлсруэ. Маладзечанец Аляксандр Кулак у першым радзе пяты справа. Архіў "РГ"

### Турнір у Карлсруэ

Комплекс з чатырох выдатных пляцовак пабудаваны ў нямецкім Карлсруэ. Зроблена гэта дзякуючы тамтэйшым ініцыятыўным заўзятарам на чале з Эдвінам Фрэзерам. Цікава, што гуляюць яны пластыкавымі бітамі, прыкладна ў два разы лягчэйшымі за звычайныя драўляна-металічныя.

Восенню там прайшоў міжнародны турнір з удзелам гаспадароў, расіянаў, украінцаў і беларусаў. Гонар нашай краіны абаранялі маладзечанец **Аляксандр Кулак** і масквіч (ніхто не быў супраць яго нагаты часовага "абеларусвання") Уладзімір Рамашын. Камандныя спаборніцтвы васьмі дуэтаў праходзілі па кубкавай сістэме. Чацвёрка лепшых такая: 1. Расія. 2. Украіна-2. 3. Украіна-1. 4. Беларусь. Асабісты турнір праводзіўся па даволі адмысловай сістэме. На папярэднім этапе пяцёрку лепшых склалі: 1. Уладзімір Рамашын. 2. Уладзімір Разлуцкі (Украіна). 3. Мікалай Мікіцін (Расія). 4. Уладзімір Еўтушэнка (Украіна). 5. Эдвін Фрэзар. Аляксандр Кулак падзяліў 6-8 месцы. Потым у барацьбе за 1-2 радкі Разлуцкі перамог Рамашына, а ў спрэчцы за 3-4 радкі Мікіцін перамог Еўтушэнку.

### Віншаванне ў МЭСе

На палігоне Маладзечанскіх электрасетак (МЭС) у Маладзечанскім раёне, дзе абсталяваныя гарадошныя пляцоўкі, прайшлі ўрачыстыя віншаванні і ўзнагароджванні па выніках сёлетняга першага клубнага чэмпіянату краіны.

Прызы атрымалі лепшы "забойцык" **Аляксандр Гарошка** ("Кэмпі"), лепшыя па выбіванні складаных фігур Аляксандр Філістовіч (МЭС) і **Дзмітрый Баяркін** ("БелАвія"), лепшы па выбіванні "пісьма" Дзмітрый Шайко (МЭС). Правялі бліцтурнір лепшых гульцоў каманд у выбіванні складаных фігур. Месцы размеркаваліся так: 1. Сушко. 2. Гарошка. 3. Лімберг ("Аўтасіб"). 4. Багмут ("Нёман").

### Абласны чэмпіянат

У Маладзечне прайшоў чэмпіянат Міншчыны ў закрытых памяшканнях. Прымалі ўдзел тыя, хто не паехаў у Верхнюю Пышму. Усяго каля дваццаці чалавек. Акрамя гаспадароў былі жодзінцы і трое валожынцаў. Тройку прызёраў склалі маладзечанцы: 1. Віктар Данілаў – 131. 2. **Аляксандр Карповіч** і **Ігар Бладыка** – па 141.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ АБЛАСНЫЯ ЧЭМПІЯНАТЫ

# Сталі чэмпіёнамі вобласці

**У мінулыя выхадныя дзве каманды рэгіёну сталі мацнейшымі на Міншчыне. Жаночая зборная Валожынскага раёна перамагла ў баскетбольным чэмпіянаце, мужчыны-мядзяльчане – у валейбольным.**

Абедзве каманды штогод займаюць высокія месцы. Але валожынкі маюць пераможны досвед: сёлета яны паўтарылі свой мінулагодні вынік. Мядзяльчане ж перамаглі ўпершыню. Некаторыя з іх гульцоў ішлі да гэтага поспеху ледзь ці не дваццаць гадоў.

### Баскетбол

САЛІГОРСК. Валожынкі прыехалі ўпяцёх без сваіх вядучых гульцоў.

У групавым турніры саступілі каля 20 ачкоў гаспадыням і каля 25 ачкоў выйгралі ў каманды Стоўбцаў. Валожынкі занялі другое месца ў групе, і ў паўфінале прыйшлося гуляць супраць пераможцаў іншай групы з Барысава. Перад гэтым матчам пад'ехалі двое лідэраў, таму не дзіўнымі сталі перамогі ў паўфінале з розніцай каля 20 ачкоў, а потым і ў фінале над усё тымі ж прадстаўніцамі Салігорска з розніцай каля 25 ачкоў.

Пачыналі турнір **Марына Жывіцкая, Вольга Купцэвіч, Кацярына Пятровіч, Марыя Тарнавіцкая і Тацяна Шырокава**. Узмацнілі потым склад **Кацярына Будзько і Кацярына Япанчынцава**.

### Валейбол

СЛУЦК. У групе мацнейшымі былі спартсмены з Бярэзінскага раёна.

Яны ўсіх перамаглі па 2:0. А ў барацьбе за другое месца атрымалася так званая "закрутка". Мядзяльчане перамаглі 2:0 валожынцаў і саступілі 1:2 Мінскаму раёну. Валожынцы ж у Мінскага раёна выйгралі 2:1. Па розніцы партый другое месца ў групе дасталося Мядзельскаму раёну, і толькі чацвёртае – Валожынскаму раёну.

Паўфінал і фінал нашы землякі выйгралі ва ўпартай барацьбе з аднолькавым лікам 3:2. Спачатку ім супрацьстаяў Салігорск, у складзе якога былі два гульцы з каманды вышэйшай лігі "Шахцёрспецбуд", а потым узялі верх над гаспадарамі.

І тут не абышлося без узмацнення. Пасля групавога этапа пад'ехаў **Алег Саковіч**. Таксама лідэрам каманды быў **Юрый Ломаць**. У стартавым складзе яшчэ выходзілі **Аляксандр Атрошка, Юрый Бачынскі, Віктар Каравацкі, Генадзь Русак, Яўген Садоўнікаў**. Дапамагалі на заменах **Віталь Валюк і Сяргей Гусарэвіч**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Табло

■ ШАХМАТЫ

МАЛАДЗЕЧНА. Чэмпіянат горада па бліцу (пяць хвілін на партыю). На папярэднім этапе выступілі каля трыццаці чалавек. У фінале сабралася дванаццаць. Тройка прызёраў: 1. Андрэй Чаеўскі. 2. Алег Дылеўскі. 3. Міхаіл Карабухін.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ БІЛЬЯРД

МАЛАДЗЕЧНА. Пераднавагодні бясплатны гарадскі турнір сабраў каля пяцідзесяці ўдзельнікаў.

У выніку трэція месцы падзялілі Віталь Вінярскі і Анатоль Гернер. У фінале Віталь Жарко перамог Уладзіміра Патапава 5:2.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ШАХМАТЫ

БАРЫСАЎ. Чэмпіянат Мінскай вобласці ў камандным заліку.

За каманду выступаюць трое мужчын і адна жанчына. Маладзечанцы Яўген і Андрэй Чаеўскія, Міхаіл Дыдзік і Жанна Вялічка занялі трэцяе месца пасля Смалявіцкага раёна і Барысава. Усяго было 16 калектываў, у тым ліку валожынцы і віляйчане.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ НА ГЭТЫМ ТЫДНІ ГУЛЯЮЦЬ

27-29 снежня, Маладзечна. Заключны этап чэмпіянату вобласці па баскетболе сярод мужчын

27-га (з 10-00) працягнецца барацьба ў групах. Група "А" (Вілейскі раён, Барысаў, Слуцк, Нясвіжскі раён) гуляе ў СШ №12. Група "Б" (Маладзечна, Салігорск, Лагойскі раён, Мінскі раён) гуляе ў СШ №14.

28-га і 29-га таксама з 10-00 пройдуць паўфіналы і фіналы ў СШ №14.

# ВІНШАВАНКІ

**Калектыву дзіцячага садка №25 з Маладзечна**

В свой чудесный день рожденья
Со счастливой цифрой 25
Нам разрешите вас поздравить,
Любви и счастья пожелать!
За свет души от нас от всех — поклон,
Пусть год от года легче вам живется
И счастьем наполняется ваш дом.

Бацькі старэйшай групы віншуюць другіх мам нашых дзетак — Ларысу Міхайлаўну Попель, Алену Адольфаўну Кізіцкую, а таксама Вольгу Сяргееўну, Наталлю Васільеўну, Ганну Міхайлаўну, Людмілу Мікалаеўну і ўсіх работнікаў дзіцячага садка №25.

Віншую з надыходзячым Новым годам і з Калядамі **сям'ю Мацюшовых**! Жадаю шчасця, здароўя і ўсяго самага найлепшага. *Ваш Сяргей.*

Віншую з Калядамі і надыходзячым Новым годам **сям'ю Шарафановічаў** з Вілейкі! З найлепшымі пажаданнямі *Сяргей.*

Сардэчна віншую з Новым годам і Калядамі **ЛОР-аддзяленне дзіцячай бальніцы**! Здароўя, поспехаў, удачы. *Юля Карташэвіч.*

Сардэчна віншую з Новым годам і Калядамі **Зінаіду Мікалаеўну Дваярадкіну**! Здароўя, шчасця, радасці, поспехаў. *Юля Карташэвіч.*

Віншуем **Віталя Кяткевіча** з 20-годдзем! Жадаем на доўгія гады моцнага здароўя і вялікага шчасця. *Сястра Анжэла, швагра, пляменніца.*

**Віталю Кяткевічу** з 20-годдзем! Не грусти — детство не вернется. Молодость — чудесная пора! Только пожелать мне остается здоровья, счастья и добра. *Мама.*

Віншую дарагую мамачку **Фаіну Віктараўну Каспяровіч** з 45-годдзем! Жадаю шчасця, здароўя, удачы. *Дачка Таццяна.*

Віншуем класнага кіраўніка **Алену Вацлаваўну Дземскую** і ўсіх настаўнікаў САШМ з Новым годам і Калядамі! *Вучні 11"Б".*

Віншуем **Пятра Явідовіча з Ашмянаў** з вяселлем! Жадаем здароўя, дабрабыту, пражыць разам 100 гадоў. *Сябры.*

Дарагі татачка **Уладзімір Васільевіч Кулага**! З днём нараджэння! Шчасця, здароўя, абяцаем слухацца. *Раман і Стасік.*

З днём нараджэння **Уладзіміра Васільевіча Кулагу**! Здароўя, шчасця, аптымізму, маладосці на доўгія гады. *Твая сям'я.*

Віншуем з 45-годдзем **Фаіну Віктараўну Каспяровіч**! Жадаем здароўя, шчасця, даўгалецця, удачы, бадзёрасці. *Надзея, Сяргей, Марына.*

Віншуем з днём нараджэння **Надзею Шыцік**! Жадаем моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, зямных даброт. *Фаіна і Таня Каспяровічы.*

Віншуем дарагую **Фаіну Віктараўну Каспяровіч** з 45-годдзем! Жадаем шчасця, здароўя, доўгіх год жыцця, поспехаў у рабоце. *Клямяцічы.*

**А. Пяркоўскаму, В. Матусевічу, В. Даўгучыцу, С. Купшту.** З Новым годам! Здароўя, кахання, удачы! *Калегі з цэха №12 з-да "Спадарожнік".*

Дарагія педагогі **Марыя Мікалаеўна Кур'яновіч і Ала Фёдараўна Сафарава**! З Новым годам! Здароўя, шчасця, поспехаў. *Рэгіна.*

**Алена Уладзіміраўна Елізавеценка**, з Новым годам! Здароўя, удачы, кахання, лебядзінай песні. *Рэгіна.*

**Зоя Пыжыкава, Ірына Жыдаловіч**, з Новым годам! Здароўя, шчасця, кахання. *Рэгіна.*

З Новым годам, **Галіна Сяргееўна Панчанка і Софья Міхайлаўна Каваленка**! Здароўя, шчасця, кахання. *Рэгіна.*

**Дзяўчаты з цэха №12 радыёзавода "Спадарожнік"**, з Новым годам! Здароўя, шчасця, удачы. *Рэгіна.*

**Калектыву сталовай п/л "Даманава", в. Мясата**. Дзяўчаты, з Новым годам! Здароўя, шчасця, удачы. *Рэгіна.*

Маладзечанцаў
**Святлану Георгіеўну і Паўла Іванавіча Карпіновічаў**
шчыра віншуем з нараджэннем чацвёртага дзіцяці!
*Сям'я Манцэвічаў з Вілейкі.*

Не ўсе пакораны вяршыні,
І мэты не дасягнутыя ўсе.
Яшчэ адзін ў сям'і мужчына —
Сям'я расце, хоць пакрысе.
Не зломкі мы на зайздрасць людзям,
Працуем, нараджаем і жывём.
Пакуль жывём, то жывы будзем,
Жывыя ж будзем — не памром!
Не ўсе пакораны вяршыні,
І вёрсты пройдзены не ўсе.
Яшчэ адзін ў сям'і мужчына
Бацькам на радасць хай расце!

Калектыў работнікаў
ТАА «Фаварыт» віншуе
**Святлану Георгіеўну і Паўла Іванавіча Карпіновічаў**
з радаснай падзеяй — нараджэннем сына і жадае не спыняцца на дасягнутым! Жадаем здароўя і цярпення ў вашай нялёгкай справе.

Ад усяго сэрца віншуем
**Святлану Георгіеўну і Паўла Іванавіча Карпіновічаў**
з прыбаўленнем ў іх сямействе! Здароўя, шчасця, удачы і далейшага росту вашай сям'і жадае
*калектыў "Рэгіянальнай газеты".*

**Сям'і Капуста**. Алеся, Алег і сонейка Уладзік, з Новым годам! Здароўя, шчасця, удачы. *Рэгіна.*

**Ніна і Лена Грыневічы, Света Гудзебская, Валодзя Кісель**, з Новым годам! Здароўя, удачы, шчасця. *Рэгіна.*

З Новым годам **Марыну Сляўку і Вольгу Малафей**! Здароўя, шчасця, кахання. *Рэгіна.*

З Новым годам **Дзіму Маскалевіча і Аляксандра Космача**! Здароўя, шчасця, кахання, удачы. *Я.*

**Ганна і Іван Гралеўскія, Арнольд Цэзаравіч і Святлана Саўлевічы**! З Новым годам! Здароўя, шчасця, міру, кахання. *Рэгіна.*

**Аленка і Ігар Ляхі**, з Новым годам! Здароўя, шчасця, лебядзінай песні. *Рэгіна.*

Самаму чароўнаму **кладаўшчыку п/л "Даманава", в. Мясата**. Анатоль Анатольевіч, з Новым годам! Здароўя, шчасця, кахання, удачы. *Рэгіна.*

Дарагія дзяўчаты **Света Тарыма, Юля Кульчык, Наташа Вінаградава, Аліна Жалубоўская, Алена Раманіна**, з Новым годам! Здароўя, удачы, шчасця. *Рэгіна.*

Дарагая мая **Ганначка Чарненка**, з Новым годам! Здароўя, шчасця, удачы, поспехаў. *Рэгіна.*

Віншую **сям'ю Сільвановічаў і сям'ю Багамолавых** з Новым годам! Жадаю ўсяго самага лепшага. *Ваша Маша.*

Віншуем з 30-годдзем любімага мужа і тату **Віктара Мікалаевіча Сільвановіча**! Жадаем шчасця, здароўя, даўгалецця, поспехаў ва ўсіх пачынаннях. *Жонка, дачка.*

Віншуем з 30-годдзем **Віктара Сільвановіча** з Вілейкі, які працуе на "хуткай дапамозе"! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у працы. *Цёця Ліда і дзядзя Дзіма.*

**Купон 52** Рэгіянальная газета

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

■ ПАДПІСКА-2003

# Падпішыся і выйграй

**Заканчваецца падпіска на студзень 2003 года. Нашы чытачы, якія засталіся вернымі "Рэгіянальнай газеце", могуць выйграць прызы, калі дашлюць свой падпісны купон у рэдакцыю.**

Падпісныя квіткі ці іх копіі прымаюцца да **6 студзеня** ўключна. Розыгрыш прызоў адбудзецца ў студзені ў кінатэатры "Радзіма" ў прысутнасці і з удзелам чытачоў газеты, работнікаў рэдакцыі, аўтарскага калектыву.

Пераможцаў конкурсу чакаюць вечар пры свечках на дваіх, картачку госця маладзечанскага кафэ "Блюз" і іншыя прызы. Вынікі конкурсу вы ўбачыце на нашых старонках.

**"Рэгіянальная газета".**

**Вечар пры свечках на дваіх у маладзечанскім кафэ "Блюз" – адзін з прызоў для падпісчыкаў "Рэгіянальнай газеты".** Фота Яўгена СТАРЫМАХА.

■ АНОНС

## Каляндар – у наступным нумары

Паважаныя чытачы! Наступны нумар будзе друкавацца 3 студзеня, а ў кіёскі "Саюздруку" і паштовыя скрыні трапіць у суботу, 4 студзеня.

Каляндар на 2003 год вы ўбачыце ў першым паслянавагоднім выпуску газеты.

## Кінатэатр «Радзіма»

**27-29 снежня.** Любоўная меладрама **"Вар'яцтва кахання"**, Іспанія, акрамя асоб да 16 гадоў, – у 17.00 і 21.00 (у чацвер на 17.00 – ільготныя білеты). Каханне, вар'яцтва і прага ўлады перапляліся ў гэтым цудоўным фільме.

**"15 жніўня"**, Францыя, камедыя – у 19.00.

**1-5 студзеня.** Маладзёжная камедыя **"Сексі Бойз, ці Французскі пірог"**, Францыя – у 17.00 і 19.00 (2 студзеня на 17.00 – ільготныя білеты).

Камедыя **"Клуб"**, Францыя – у 19.00.

**1-3 студзеня. "Гары Потэр, ці Філасофскі камень"**, ЗША, прыгоды – у 14.30.

**У ДНІ КАНІКУЛ ДЛЯ МАЛОДШЫХ ШКОЛЬНІКАЎ**

27 снежня – **"Аленяня Рудольф-2"**, ЗША, казка – у 12.00.

28 снежня – **"Адзін у лесе-2"**, ЗША, прыгоды – у 12.00.

29 снежня – **"Вудзі-спартсмен"**, ЗША – у 12.00.

2 студзеня – **"Самы каштоўны прымат**, ЗША, прыгоды у 12.00.

**ДЛЯ СТАРЭЙШЫХ ШКОЛЬНІКАЎ**

27 снежня – **"Геніяльныя дзеці"**, ЗША, камедыя – у 15.00.

28, 29 снежня — **"Ідэальная цацка"**, ЗША, фантастычная камедыя – у 15.00.

Перад пачаткам фільма — дыскатэка.

# ЗНАЁМСТВЫ

Пазнаёмлюся з добрай, стройнай, высокай жанчынай 34-38 год для сур'ёзных адносін. Маладзечна-6, п/п 42 №4603023.

Пазнаёмлюся з жанчынай для сур'ёзных адносін. Пра сябе: 42/165/65. 222394, п/а Камарова, Мядзельскі р-н, п/п МС 0899072.

Удава, 34/173/70, пазнаёміцца з самастойным мужчынам без шк/зв., для сур'ёзных адносін. Маладзечна-1, п/п МС 0466276.

■ СВЯТЫ

# Каб Новы год прыходзіў кожны дзень

**Наколькі змянілася праўдзенне навагодніх ранішнікаў цяпер у дзіцячых садках у параўнанні са святамі 10-гадовай даўнасці? Каб параўнаць сучаснасць з мінулым, на днях я пабывала на ранішніку ў дзіцячым садку.**

У невялікай зале сабраліся дзеці і іх бацькі. У цэнтры пакоя раскінула свае пышныя галінкі штучная ёлка. Памятаецца, тут дзесьці павінны бегаць Лісы, Ваўкі, Мядзведзі, Чырвоныя Капялюшыкі і іншыя жывёлінь і казачныя героі. Але ж дзе яны? Ага, вось адзін Воўк, Казляня адно... А ўсе астатнія? Аказваецца, цяпер дастаткова пачапіць на сябе што-небудзь бліскучае ці насунуць на галаву вострь каўпак на амерыканскі манер. Снягурка спытала ў аднаго хлопчыка ў чырвонай шапцы з белым бумбонам: "Ты хто, Бураціна?" "Гном я", – адказаў той.

За гадзіну з невялікім дзеці станцавалі столькі падрыхтаваных танцаў і спелі столькі завучаных песень, што шкада іх стала, як падумала, колькі яны рэпеціравалі ўсё гэта. У мой час ранішнікі праводзіліся для дзяцей, а не для гледачоў: конкурсы, песні, танцы.

А якую музыку слухае сённяшняя дзетвара ў Новы год? Вельмі крыўдна, нават сумна і страшна стала з-за таго, што ні разу я не пачула там песні "В лесу родилась ёлочка", або "Маленькой ёлочке холодно зимой". Затое на ўсю моц гучала такое: "раз, два, три, четыре, губки-губки целовались" і "мы рядом за круглым столом".

Пасля дзеці атрымалі салодкія падарункі ў бляшанках. Радасныя, яны пабеглі да бацькоў. А адна дзяўчынка сказала матулі: "А тут написана "З Новым гадам!« Ужо ў класе дзеці елі цукеркі пад словы знакамітай Алсу "когда любовь ко мне придёт и, как солнце, растопит белый лёд..."

А ці вераць дзеці ў Дзеда Мароза? Тут не ўсё так дрэнна, але ўсё ж такі адзін хлопчык сказаў: "Сёння быў не сапраўдны Дзед Мароз. Я бачыў, як ён пераапранаўся за ширмай". Можа, калі рабіць дарослым свята для дзяцей, дык ужо як след, без халтуры...

Не ведаю, чаму так невясела ў мяне атрымалася. Можа быць, таму, што я сталею і, як многія дарослыя, станаўлюся кансерватыўнай.

Але дзеці, у які б час ні выхоўваліся, заўсёды добрыя і шчырыя. І на пытанне Снягуркі, чаго яны жадаюць, хлопчыкі і дзяўчынкі адказвалі: "Каб усё было добра", "Каб Новы год быў кожны дзень", "Каб заўсёды прыходзіў Дзед Мароз".

**Яўгенія МАНЦЭВІЧ.**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

# Качка з баклажанамі

Добра прамыць і нарэзаць парцыённымі кавалачкамі тушку качкі (прыблізна 0,75кг). Дробна пакрышыць 1 галоўку рэпчатай цыбулі, 1 моркву, 1-2 скрылькі сельдэрэю і дадаць да мяса. Уліць 1 шклянку гарачай вады, 5-6 лыжак тлушчу, пасаліць па смаку і варыць пры кіпенні. Калі мяса пачне абсмажвацца, дадаць молатага салодкага чырвонага перцу, чорнага перцу і 4-5 ачышчаных і здробненых чырвоных памідораў. Уліць такую колькасць гарачай вады, каб соус амаль пакрыў мяса, і варыць пры кіпенні на сярэднім агні.

Абмыць 0,75 кг баклажанаў сярэдняга памеру і нарэзаць паўкружкамі таўшчынёй прыблізна 2 см (калі баклажаны вялікія, то нарэзаць іх найперш кружкамі, а затым яшчэ кружок на чацвярціны). Пасаліць, даць вадзе сцячы, прамыць халоднай вадой, падсушыць сурвэткай і абсмажыць. Калі мяса будзе амаль гатовае, дадаць абсмажаныя баклажаны і яшчэ варыць пры слабым кіпенні прыблізна 20 хвілін. Перад падачай пасыпаць чорным перцам.

■ ГУМАРЭСКА

# Чые намёкі мацнейшыя

Для Сцяпана Хапука прыём наведвальнікаў складваўся ўдачна. Варта было намякнуць шафёру Карданчыку пра раптоўны ўсплеск цэн на паліва, як у кабінеце запахла абцаанка каністрай бензіну. Пасля адпаведнага намёку і прадпрымальнік Цёрты таксама не змоўчыў – паабяцаў... Ну, самі ведаеце, што і колькі мог прапанаваць сучасны прадпрымальнік "сярэдняга калібру", каб прывесці Сцяпана Рыгоравіча ў добры настрой.

Цяпер перад ім сядзела немаладая ўжо наведвальніца, звычайная вясковая жанчына пенсійнага ўзросту. Назвала сябе Анэляй Хведараўнай. Яна і выклікала ў галаве Хапука бурны пошук магчымай выгады. Яго мысліцельны апарат аж зашкаліваў у напрузе: што можна выцягнуць з гэтай кабеты? Жыве яна недалёка ад лесу. І паступова, як вопытны следапыт, ён натрапіў на абнадзейлівую перспектыву. Намякнуў на свой інтарэс, задаўшы Анэлі Хведараўне адшліфаванае журналістамі пытанне:

— Якія ў вас, шаноўная, віды на ягадны ўраджай? Сезон жа ў самым разгары...

Жанчына яўна здагадалася аб дальнім прыцэле гэтага пытання, бо намякнула ў адказ, хітравата ўсміхнуўшыся:

— Сама я ўжо не... А вось дачушка ў пятніцу нанач прыедзе з Мінска, тая вядро чарніц у стане ўміг назбіраць. Не развучылася яшчэ.

У гэтым адказе Сцяпан Рыгоравіч учуў добры знак для сябе і заўважыў:

— Ну, як гэта вы, паважаная, будзеце ісці з адным вядром? Перагнуўшыся ўбок? Гэта ж шкодна здароўю! Трэба хадзіць роўна.

— А, зразумела, — зноў здагадліва ўсміхнулася жанчына. – Падключу нявестку: назбіраць два вядры для раўнавагі. І з двума вёдрамі буду ісці роўна-роўна...

— Ну, вось, з двума – іншая справа, — абрадавана зазначыў Сцяпан Рыгоравіч. – А то з адным... Можна скрывіць ці нават вывіхнуць пазваночнік. А я буду чакаць. Тады і вам нешта хутчэй вырашыцца...

— Нявестка вызваліцца ад службы ў суботу. Тады і назбіраюць, — сказала яна і ўдакладніла з намёкам. – А гэтымі днямі яна дзяжурыць па райаддзелу міліцыі.

Пры апошніх словах наведвальніцы Сцяпан Рыгоравіч пакрыўся пякучай чырванню. На спіне выступіла ліпкая вільгаць, як у таго марафонца ў канцы дыстанцыі. Анэля Хведараўна спачувальна заўважыла:

— Відаць, жарой сахарскай у кабінеце пацягнула? Ці што?

Сцяпан Рыгоравіч прамаўчаў, шукаючы належны выхад з тупіка, у які ён сябе загнаў. Нарэшце з цяжкасцю заварушыў сухім языком, калі знайшоў прыдатны адказ:

— Да аўтобуса і данясеце... Дзеткам уручыце... І няхай вязуць дадому. Кожны сваё вядро. Яны маладыя, пазваночнік не вывіхнуць... Хі-хі-хі...

— Які аўтобус, — здзівілася Анэля Хведараўна. – Дачка ў Саўміне загадвае аддзелам: катаецца на "Мерсе". А нявестка, маёр міліцыі, носіцца на "Бэмвэшцы". Пастаўлю ў багажнікі – і шчаслівай дарогі! А вы чакайце: хто-небудзь прывязе і вам. Мяркуючы па ўзросце, павінныя быць і ў вас ці дачка, ці нявестка.

Сцяпан Рыгоравіч на развітанне паслужліва падаў руку, якая чамусьці крыху трэслася. Затое цвёрда зазначыў з намёкам:

— Вырашыцца для вас усё... І хутка, і належным чынам. Будзьце спакойныя! І здаровенькія...

**Аляксандр НАРКЕВІЧ.**

# Адным абзацам

**Пасля нядаўніх трагічных падзей у Маскве служба бяспекі аднаго з цюменскіх банкаў аб'явіла, што набірае ахоўнікамі асоб жаночага полу. Галоўным крытэрыем адбору расіянак сталі больш высокаразвітыя ў параўнанні з мужчынамі інтуіцыя і пачуццё небяспекі.**

Сусветная эканоміка канстатуе агульны спад – рост у Амерыцы каля 1% у год, у Еўропе ўсяго 0,7%, у Японіі эканоміка стаіць на месцы, толькі ў Кітаі – пад'ём на 7% у год. Курс еўра на наступны год прагназуецца ў адносінах да долара на ўзроўні 1,01-1,12 долара да еўра.

**Бібліятэкі будуюць не толькі ў нас – як і ўсё мудрае, гэтае дзівацтва прыйшло з Усходу. У пачатку кастрычніка ў Егіпце была адроджана пасля 1600 гадоў забыцця легендарная Александрыйская бібліятэка. Будаўніцтва па праекту нарвежскіх архітэктараў абышлося ў 1,5 мільярда долараў, на суму 200 мільёнаў пацягнулі затраты на пакупку саміх кніг. Егіпецкі ўрад даў культурнаму ачагу асобы статус – ён, як прынята, падпарадкоўваецца непасрэдна прэзідэнту краіны.**

Аказваецца, карупцыя і хабар працвітаюць не толькі ў нас. Пасля грандыёзных скандалаў у ЗША чарга дайшла да менш развітых краін. Выкрываннем карупцыі ахоплена ўся Мексіка, дзе нелегальна працуюць 2,5 мільёна прадпрыемстваў у сферы гандлю бензінам і прыёму плацяжоў за электраэнергію, тэлефонныя размовы і карыстанне газам. Урон ад анархіі чыноўнікаў у краіне дасягнуў 3 мільярдаў у год.

**Львоўскі гарсавет, даўно вядомы сваімі антырасійскімі настроямі, зацвердзіў музычны рэпертуар мясцовых кафэ і бараў – да 80% усіх выконваемых песень павінны быць украінскімі. Трансляцыя твораў вядомай расійскай папсы (у тым ліку песні Пугачовай і Лявонцьева) пагражае спыненнем дзеяння ліцэнзіі.**

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**





Куплю
трос спідометра, ручку дзвярную, фільтр паветраны, цягу рулявой калонкі да а/м "Ісудзу-Мідзі", 2.4 турбадызель, 1995 г. в.
Тэл. (8-029) 6550799.

• Каляску дзіцячую б/у. Т. у Маладзечне 65848, 66855 (раб.).
• Кампрэсар, зварачны п/аўтамат, усё 380 В, р/тэлефон Харвест-5. Т. у Вілейцы 58086.
• **КАМП'ЮТЭР INTEL, AMD — Б/У. КАМПЛЕКТУЮЧЫЯ, ГАРАНТЫЯ, РАМОНТ. Т. у Маладзечне 54583, (8-029) 6161705.**
• Веласіпеды жаночы і мужчынскі "Аист", новыя, 73000 руб. Т. у Маладзечне 62709.
• Лічбавы фотаапарат НР-215, гарантыя. Т. у Маладзечне 66366.
• **ЛЕПШЫ ПАДАРУНАК ДА НОВАГА ГОДА! СОТАВЫ ТЭЛЕФОН** Матарола Т191, V50, Sony G-7, Epicson A3618. Т. у Маладзечне 40071. Падлягае абавязковай сертыфікацыі.
• Маб/тэлефон, сімкарту "Привет", мікрахвалевую печ — усё б/у, у добрым стане. Тэл. (8-029) 6018294.
• Прыбор пошукавы; скураныя джынсы, мужчынскія, пам.46-48. Т. у Маладзечне 75362.
• Радыётэлефон далёкага радыуса дзеяння. Т. у Маладзечне 71458, Алег.
• Касавы апарат ВМ 8005. Тэл. 8-029 6277259.

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАМ

• Форд-Сіеру, 1988 г. в., 2.3Д, 1700 у. а. Т. у Маладзечне 73788 (дам.), 36517 (раб.), Андрэй.
• З/ч да Вольвы-340. Т. у Маладзечне 20184.
• А/м Міцубісі-Кольт, 1987 г. в., на запчасткі, з дакументамі. Тэл. (8-029) 6877017.
• Аўдзі-80, 1988 г. в., 1.8Б, чырвоны. Т. у Маладзечне 91369.
• Аўдзі-80, 1987 г. в., 1.8Б, цёмна-сіні. Т. у Маладзечне 67611.
• VW-T-4, 2.4Д, 1992 г. в. Тэл. (8-029) 6576034, Валодзя.
• Опель-Вектру, 1992 г. в., 1.6Б. Т. у Маладзечне 67560, (8-029) 6262281.
• Опель-Амегу, 2.0і, снежань 1989 г. в., газ-бензін, чорны металік, выдатны стан. Тэл. (8-029) 6961011.
• ВАЗ-2107, 1987 г. в., 1.5 газ-бензін, выдатны стан, 980 у. а., торг. Т. у Вілейцы 64155.
• А/м ВАЗ-21074, 1.6Б, 1995 г. в. Т. у Вілейцы 59253.
• Форд-Скорпіё, 2.5ТД, серабрысты, 1991 г. в., АБС, ц/з, г/у, 2350 у. а. Т. у Вілейцы 48212.
• ГАЗ-52, 1984 г. в., бензін + з/ч, 600 у. а. Т. у Вілейцы 48212.
• Рухавік Форд-Скорпіё, 2.5Д, 5КПП, навяснoe. Т. у Вілейцы 32562.
• М/а Форд-Транзіт, 1992 г. в., пасажырскі, толькі з Германіі; л/а Сеат-Кардоба, 1994 г. в., 1.6Б, нядорага. Т. у Маладзечне 53676, (8-029) 6236081.
• Опель-Кадэт-караван, 1989 г. в., 500 у. а. Т. у Маладзечне 61637, 61046.
• Аўтамабільны багажнік; сані. Т. у Валожыне 33225.
• Сеат-Кардобу (ФВ-Пола), 1994 г. в., 10 дзён з Германіі, 120000 км прабег, стан ідэальны, 3600 у. а. Т. у Маладзечне 76314.
• ФВ-3, зялёны металік, 3-дзверны, 1992 г. в. Тэл. (8-029) 6630511.
• Вольву-440, 1995 г. в., месяц з Германіі, 1.8і, сіні перламутр, ёсць усё, 4300 у. а., торг. Т. у Маладзечне 28327.
• Рэно-19, 1.4Б, 1995 г. в., поўны пакет, месяц з Германіі, цёмна-шэры металік. Т. у Маладзечне 36553.
• Аўдзі-80, 1984 г. в., пераходная, бензін 1600, 1650 у. а. Т. у Астраўцы 37182.
• VW-Венту, 1993 г. в., 1.8Б, ц/з, г/у, мабілайзер, эл/люк, месяц з Германіі. Т. у Маладзечне 73656, 64883, 68218.
• З/ч б/у ФВ-Гольф, Пасат. Тэл. (8-029) 6580594.
• Тэрмінова Форд-Арыён, 1.6 газ-бензін, 1991 г. в., чырвоны колер, добры стан, 1850 у. а. Тэл. (8-02156) 38199.
• Пежо-405,1990 г. в., 1.9Д, універсал, 2000 у. а., або мяняю на таннейшы дызельны а/м. Т. у Мядзеле 33601.
• А/м Нісан-Ванета, брызент. Т. у Маладзечне 63458.
• А/м Опель-Кадэт, 1.6Д, 1986 г. в.; спальню Валошка, б/у, выдатны стан. Тэл. (8-029) 6651440.
• Камплект зімняй гумы 195/65 R15 і 165 R13; аўтамагнітолу на санках — усё б/у, у добрым стане. Тэл. (8-029) 6018294.
• А/м Mazda-323, універсал, 1992 г. в., 1.6і, 120000 км, месяц у РБ, 2450 у. а. Т. у Маладзечне 62741, (8-029) 6572415.
• Форд-Эскорт, 1994 г. в., 1.4 бензін, 5-дзверны, 5 дзён у РБ. Тэл. (8-029) 6283849.
• Фіят-Уно, 1983 г. в., 5КПП, 900 см$^3$, на ходу, т/а-3, 500 у. а. Т. у Вілейцы 58381.
• Рэно-Эспэйс, 1989 г. в., 7 месцаў, бензін, або мяняю на дызельны м/а. Т. у Вілейцы 55783.
• ВАЗ-2107, 1985 г. в.; кабана жывой вагой. Вілейскі р-н, в. Куранец, вул. Партызанская, 41.
• Опель-Вектру, 1994 г. в., фіялетавы, 1.6Б, 2 тыдні з Германіі, добрай камплектацыі, цана 2750 у. а., торг. Т. у Вілейцы 32925, (8-029) 6532662.
• Волгу-21, рухавік 3,0 дызель ад Мерседэса, 400 у. а., без торгу. Т. у Вілейцы 57768.
• Форд-Скорпіё, 4х4. Т. у Вілейцы 32058 (пасля 18$^{00}$).
• А/м Аўдзі-100, 2.0Д, 1984 г. в., 1300 у. а. Т. у Смаргоні 35850.
• Паўпрычэп ОДАЗ да КамАЗа, г/п 14 тон, даўжыня 9 м, двухвосны. Т. у Смаргоні 36571 (у любы час).
• ВАЗ-2103, 1976 г. в. Тэл. (8-029) 6338340.
• ВАЗ-21011, 1978 г. в., 350 у. а., торг. Тэл. (8-029) 6338340.
• Мазду-323F, 1993 г. в., к/ф, г/у, ц/з, люк, спойлер, 2350 у. а. Т. у Маладзечне 36525.
• Рэно-19, 1993 г. в., эл/люк, эл/шкло, г/у, ц/з з дыст./кіраваннем, ABS, л/д, велюр, шэра-зялёны, б/камп'ютэр, 4 дні з Германіі, 2350 у. а. Т. у Маладзечне 36246, 36525.

### КУПЛЮ

• Дакументы да трактара Т-16. Т. у Маладзечне 98283.
• Кузаў а/м Форд-Сіера, 3-дзверны, да 1990 г. в., з дакументамі. Т. у Маладзечне 61950.

### ПАСЛУГІ

• Устаноўка сігналізацый, ц/з, **УСТРОЙСТВАЎ ПЕРАДПУСКАВОГА ПАДАГРЭВУ РУХАВІКА**, устройстваў падагрэву дызпаліва (для легкавых і **ГРУЗАВЫХ АЎТО**). Т. у Маладзечне 64136.

### ІНШАЕ

• Вазьму спадарожніка ў Польшчу за а/м. Тэл. (8-029) 6614964.

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАМ

• Дом у Вілейцы (р-н Макаўе), 100/63/10, хлеў, гараж, лазня, сад, 20 сотак зямлі. Т. у Вілейцы 58326 (пасля 18$^{00}$).
• 3-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, 4 паверх. Т. у Вілейцы 53722.
• 3-пакаёвую кватэру ў Нарачы. Т. у Вілейцы 48225.
• У Вілейцы 2-павярховы катэдж, 200 м$^2$, участак 0,15 га, гараж, хлявы, усе камунікацыі. Т. у Мінску 2380455 (пасля 18$^{00}$).
• Дом у Вілейцы, абмяняю на кватэру. Т. у Вілейцы 53888.
• 2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. у Маладзечне 67443.

### КУПЛЮ

• Дом у Вілейцы. Т. у Вілейцы 53820 (пасля 18$^{00}$), (8-029) 6531277.
• Цагляны дом у прыгарадзе Маладзечна. Т. у Маладзечне 40523.

### МЯНЯЮ

• Дом у в. Асіпавічы, 7х7, з усімі прыбудовамі (лазня, летняя кухня, хлявы) на кватэру або дом у Вілейцы. Т. у Вілейцы 35347 (пасля 17$^{00}$).

### ЗДАМ

• 2-пакаёвую кватэру з мэбляй і тэлефонам. Т. у Маладзечне 61637, 61046.

### НАЙМУ

• **ГАРАЖ У ВІЛЕЙЦЫ. Тэл. (8-029) 6550799.**
• Тэрмінова! 2-пакаёвую або 3-пакаёвую кватэру з тэлефонам і мэбляй. Т. у Маладзечне 52362.
• Маладая сям'я нойме аднапакаёвую кватэру на працяглы тэрмін. Т. у Маладзечне 29212.
• Аднапакаёвую кватэру без мэблі, з тэлефонам, на працяглы тэрмін. Т. у Маладзечне 75568, 63690 (пасля 17$^{00}$).
• Кватэру ў Маладзечне ў р-не вул. Будаўнікоў-Міру. Тэл. (8-029) 6560338.
• Кватэру. Т. у Маладзечне 75188, Дзіма (19$^{00}$-22$^{00}$).

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• **ВЯСЕЛЬНЫЯ І ВЯЧЭРНІЯ ЎБОРЫ:** модныя, элегантныя, новыя паступленні, вэлюм у падарунак. Т. у Маладзечне 39293, (8-029) 6339293. Ліц. №04599 Белбытсаюза18.10.1999-18.10.2004.
• **У САЛОНЕ ВЯСЕЛЬНАЙ МОДЫ "РАКСАЛАНА"** новая калекцыя "Зіма-2003". У падарунак вэлюм. Гасцініца "Маладзечна". Т. у Маладзечне 74109, 51070. Ліц. №00582 Белбытсаюза 4.06.1999-4.06.2004.
• Мілыя нявесты! Для вас навагоднія скідкі 20%! Т. у Маладзечне 30848, 26308. Ліц. №01795 БДААБАН 8.05.2001-8.05.2006.
• **ВЯЛІКІ ВЫБАР** вясельных і вячэрніх убранняў. Сукенка для маці нявесты — **БЯСПЛАТНА**. Т. у Маладзечне **50825**. Ліц. №03716 Белбытсаюза 13.08.99-13.08.2004.
• Вясельныя і вячэрнія ўбранні. Т. у Маладзечне 75801. Ліц. №04285 БДААБАН ад 20.05.2002-20.05.2007.
• **ВЯСЕЛЬНА-ВЯЧЭРНІ САЛОН "МІЛЭДЗІ".** Вялікі выбар. Маладзечна, вул. Буйніцкага, 30. Т. у Маладзечне 77382, (8-029) 6273487. Ліц. №03576 БДААБАН 31.01.2002-31.01.2007.
• Вясельныя і вячэрнія сукенкі. Маладзечна, вул. Будаўнікоў, 15а (Дом быту). Т. у Маладзечне 67877 (дам.), (8-029) 6208849. Ліц. №03204 БДААБАН 30.11.2001-30.11.2006.
• **ВЯСЕЛЬНЫЯ І ВЯЧЭРНІЯ ЎБОРЫ**. Новыя мадэлі. **НЯДОРАГА.** Т. у Маладзечне **50510.** Ліц. №02477 БДААБАН 30.07.2001-30.07.2006.

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• А/м МАН, 20 т, па РБ, СНД. Ліц. АЕ №1-4479 МТіК 08.06.2000-08.06.2005. Т. у Маладзечне 30773, (8-029) 6695260.
• Грузаперавозкі ў межах РБ, Расіі і Украіны, 6 тон, 20 м$^3$, ізатэрма. Т. у Вілейцы 42390, 8-029-6668890. Ліц. АЕ №1-7219 МТіК 31.10.2002-31.10.2007.

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Пракат гульнявых прыставак "Sony PS" і "Sega DC". Дастаўка. Т. у Маладзечне 39379. Ліц. ББС №01796 ад 8.05.2001 г.да 8.05.2006 г.
• Французская мова: пераклады з/на, перапіска з/на, кантрольныя работы. Хутка. Якасна. Нядорага. Тэл. (8-029) 6276342.
• Выконваем размол збожжа. Т. у Вілейцы 35113.
• Манікюрныя паслугі ў салоне "Надзея". Вілейка, вул. Чапаева, 60. Ліц. №05530 БДААБАН 2.12.2002-2.12.2007.

## РОЗНАЕ

### ПРАДАМ

**БЫТАВАЯ ТЭХНІКА**
• Печ СВЧ Gold Star, грыль, сенс.кіраванне, 40 л, 80 у. а. Т. у Вілейцы 53705.

**МЭБЛЯ**
• Стол з табурэткамі. Т. у Маладзечне 65556.
• **МЭБЛЮ** РБ. Дастаўка. Т. у Вілейцы 53829, (8-029) 6313007. Падлягае абавязковай сертыфікацыі.
• Кухню Вязынка, б/у, 250 у. а. Т. у Маладзечне 31655.

**ЖЫВЁЛА**
• Шчанят нямецкай аўчаркі. Т. у Маладзечне 63368, 71301.
• **ШЧАНЯ СЯРЭДНЯАЗІЯЦКАЙ АЎЧАРКІ З РАДАСЛОЎНАЙ. Тэл. (8-029) 6337275.**
• Кабана. Тэл. (8-029) 6331581.

**ІНШАЕ**
• **ПОМНІКІ** з мармуровай крошкі. Якасць, рэальныя цэны. Маладзечна, вул. Бухаўшчына, 58 (каля Палаца культуры). Т. у Маладзечне 70656.
• Цуда-печку для абагрэву памяшканняў і прыгатавання ежы, на салярцы. Маладзечна, калгасны рынак. Т. у Маладзечне 70448, (8-029) 6574276.
• **КАМП'ЮТЭРЫ PI-PIV, КАМПЛЕКТУЮЧЫЯ, Б/У, ГАРАНТЫЯ. ДАСТАЎКА. Т. у Маладзечне 60583, 64687, (8-029) 6432423.**

### КУПЛЮ

• **ФОТААПАРАТЫ**, аб'ектывы, **ГАДЗІННІКІ**, грамафоны, абразы, мэблю, фарфор і іншыя старадаўнія рэчы. Т. у Маладзечне 65542, (8029) 6564854.
• Буйную бульбу, моркву, буракі сталовыя, капусту, цыбулю. Тэл. (8-029) 6877017.
• Пэйджэр б/у. Тэл. (8-029) 6550799, пэйдж.501 (тэл. 8-01773-30020).
• Манеты, іконы, статуэткі, гадзіннікі, мэблю старадаўнюю, самавары, грамафоны, патэфоны, знакі, жывапіс 30-70 гадоў. Т. у Вілейцы 59536 (пасля 19$^{00}$).

### ЗГУБЛЕНА

• 13 жніўня ў р-не в. Вязынь прапаў кабель пароды чау-чау, рыжай масці, 7 год. Калі вы валодаеце нейкай інфармацыяй або ў вашым р-не з'явіўся сабака такой пароды, просім паведаміць за добрую ўзнагароду па тэл. у Мінску 2194223, 2218945, маб. (8-029) 6218945.
• Згубленую пячатку на імя прыватнага прадпрымальніка Леаніда Барысавіча Верасовіча, г. Маладзечна, пасв. №2376, лічыць несапраўднай.

### ПАТРАБУЮЦЦА

• Філіял камерцыйнай замежнай фірмы ў Мінску запрашае новых супрацоўнікаў на вакансіі рознага ўзроўню. Т. у Мінску 2140643 (9$^{00}$-13$^{00}$), (8-029) 6140643.
• ЗСАТ "Бролли" у Маладзечне патрабуюцца страхавыя агенты. Маладзечна, вул. Будаўнікоў, 4а, 2-і паверх. Т. у Маладзечне 64792.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю работу па **РАМОНЦЕ ХАЛАДЗІЛЬНІКАЎ.** Т. у Маладзечне 76721.
• Шукаю работу вадзіцеля (кат. ВСД). Т. у Вілейцы 59606.

### ІНШАЕ

• Кантрольныя работы па вышэйшай матэматыцы, статыстыцы. Т. у Маладзечне 75047.

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## Чым запомніўся год?



**Жанна Дзмітрачонак, в.а. намесніка начальніка раённага вузла паштовай сувязі:**

– Гэта самы цяжкі год у маім жыцці. Атрымала новую пасаду. І першы раз за ўсю сваю кар'еру пайшла ў адпачынак у лістападзе. Заўсёды адпачывала летам.



**Сяргей Балыкін, прадпрымальнік:**

– Навучыўся вадзіць машыну. На тым тыдні трэці раз здаваў на правы. Так і не атрымалася. Усё правільна зрабіў, але спазніўся на 12 секунд.



**Кацярына Субач, школьніца:**

– Перайшла ў новы клас – гуманітарны. Цяпер займаюся тым, што падабаецца. А яшчэ ў мінулую сераду ўпершыню за год па нямецкай мове атрымала "9".



**Андрэй Глінскі, прадпрымальнік:**

– Пакаштаваў тэкілу. Супер! Гэта настойка з кактусаў. Па моцы, як гарэлка, але смачней за яе. Купіў на рынку пад Масквой. За літр аддаў 90 тысяч беларускіх рублёў. Вельмі люблю калекцыяніраваць экзатычныя напоі.

Падрыхтавала Ірына РАБУШКА

■ НАДВОР'Е

| Мінск | 27.12 дзень | 27.12 вечар | 28.12 дзень | 28.12 вечар |
|---|---|---|---|---|
| ападкі | | | | |
| атмасферны ціск, мм | 738 | 737 | 740 | 741 |
| тэмпература паветра, °С | -11 | -14 | -13 | -15 |
| вільготнасць паветра, % | 98 | 98 | 98 | 97 |
| вецер, м/сек | 1-3 | 1-3 | 2-5 | 2-5 |

| Вільня | 27.12 дзень | 27.12 вечар | 28.12 дзень | 28.12 вечар |
|---|---|---|---|---|
| ападкі | | | | |
| атмасферны ціск, мм | 744 | 745 | 746 | 747 |
| тэмпература паветра, °С | -9 | -13 | -12 | -13 |
| вільготнасць паветра, % | 97 | 98 | 97 | 98 |
| вецер, м/сек | 1-3 | 1-3 | 4-7 | 4-7 |

## Чытайце праз тыдзень:

- **Нарачанскія краявіды Яна Булгака.** Наш зямляк, які жыў на мяжы XIX і XX стагоддзяў, пакінуў нашчадкам кнігу з мноствам фатаграфій мясцін рэгіёну.
- **Прыгажуня-шахматыстка.** 9-класніца з Маладзечна Валерыя Грынкевіч пасля перамогі ў гарадскім конкурсе "Міс Вясна" выйграла гарадскія спаборніцтвы па шахматах.

■ КАЛЯДНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Навагодні падарунак праз «кантакт» з ворагам

Зімой у шэсць гадзін — ужо глыбокі вечар. Каменданцкая гадзіна паразганяла вяскоўцаў па хатах. Таму на апусцелай вуліцы Каралеўцаў зарыпелі сані. Нехта ехаў з боку Ляскоў, з партызанскай зоны. На перакрыжаванні вуліц конь паспрабаваў звярнуць у бок Іжы, дзе ў некалькіх кіламетрах адгэтуль размяшчаўся нямецкі гарнізон. Але патрабавальны вознік накіраваў яго прама, уздоўж Нарачанкі.

Яго чакалі ў родным дварышчы. Гаспадар горача абняў госця:

— Здароў, сынок! Я падкіну сена, а ты – у хату. Адагравайся...

Маці дастала з печкі патэльню свежаніны, а бацька адкаркаваў святочную пляшку.

— Ну, сынок! Кульнём за тваю даросласць. З Новым годам! Каб даў бог праклятай вайне хутчэй канец які...

— Ну, як? – працягваў бацька, закусваючы. – Любаноўскі спірытус... Крыху разведзены, але – агонь! Ну, сабралі мужыкі партызанам мукі, збожжа... Грошай скінуліся: рублёў, марак. Не-не, ведамасць не склалі: каб часам да немцаў не трапіла – ўсяк можа здарыцца! Ну – паехалі: яшчэ кульнём... За ўдачу – каб усё добра...

Сына выводзілі з-за стала пад рукі...

— Нічога! На марозе працверазіцца, — заўважыў бацька, калі маці выказала занепакоенасць хісткім станам сына.

Дарагога госця пасадзілі ў сані. А конь, не адчуваючы на лейцах патрабавальных рук фурмана, вольна затрусіў па дарозе...

Яго настойліва трэслі за плечы. Доўга калацілі... Нарэшце ён расплюшчыў вочы і замармытаў: "Тшч камдзір... Задань... Падар...

Ціха, ты! – запатрабаваў хлопец у доўгім кажуху. – Ты — Мішка з Каралеўцаў? Партызан? А як ты трапіў у Іжу? На пост паліцыі? Не лапай: аўтамат – у нас...

І Мішку затрэсла холадам ліхаманкі: "Уліп"...

Калі на Каралеўскім выездзе вартавыя паліцаі пачулі вясёлае пафыркванне каня, схапіліся за вінтоўкі. Пад'ехалі адзінокія сані.

— Гляньце, суседаў конь! – заўважыў адзін з паліцаяў. – Яшчэ летам прапаў...

У санях, абняўшы мяшок, спаў хлопец з аўтаматам цераз плячо. Моцны храп сведчыў, што фурман на добрым падпітку. У ім прызналі Мішку з Каралеўцаў, які знік з вёскі яшчэ вясной. Пасля нядоўгай нарады паліцаі вырашылі, што з ім рабіць.

— Дык вось што: мы цябе так не адпусцім, — сказаў адзін з іх. – Пабажыся, што вясной адгоніш каня гаспадару: у яго – сямёра дзяцей. Ды возьмеш з сабой "навагодні падарунак" – нашага начальніка каравула Жывадзёрава. Згадаў гад... Ляжыць, свалата, п'яны, як труп. У дзяжурцы. А-а, перадай камандзіру: вясной мы з сем'ямі – да вас! Ды не засні зноў у абдымку з мяшком.

— Хлопцы! Мяшок патронаў з гранатамі таксама, — прапанаваў другі. – Згода? Скажам: Жывадзёраў некуды спёр...

Яшчэ да поўначы Мішка быў ужо ў Лясках. Разгрузілі падарункі: мяшок мукі, мяшок боепрыпасаў як падняць і соннага звязанага паліцая – мяшок-мяшком...

Але нядоўга быў Мішка ў героях. Пільны асабіст хутка яму настрой сапсаваў: "Дзе ты ўсё гэтае ўзяў. Меў кантакт з ворагам? А палійцай – не падкідны шпіён?".

І загрымеў Мішка ў спецзямлянку пад следства. Там і Новы год сустрэў у нуднай адзіноце. Тады ў "ворагі народа" ды ў "шпіёны" запісвалі зусім невінаватых...

А тут – "кантакт" з ворагам!

**Аляксандр НАРКЕВІЧ, Вілейка.**



**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)**

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.**
**E-mail: regionnews@promedia.by**
**http://regionnews.promedia.by**

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **9620 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. **№52 (401) 27.12.2002.** РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. № 3639. Падпісана ў друк у 13.00 26.12.2002

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

**Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444**